PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (2212) Год XLIII Беласток 4 кастрычніка 1998 г. Цана 1,20 зл.

## З СЛД, але асобна

**Пятро КРУК — старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, радны ўступаючай Гарадской рады ў Беластоку, кандыдат да гэтай жа Рады ад Беластоцкай самаўрадавай кааліцыі „Левыя і незалежныя разам" (4 месца на спіску ў акрузе н-р 7).**

***— Як гэта сталася, што дзеяч беларускай ліберальнай партыі апынуўся на выбарчым спіску Саюза левых дэмакратаў?***

— Доўгі час не было вядомым якое Сейм ухваліць палажэнне аб выбарах у самаўрады. Цяпер вядома ўжо, што тая ардынацыя, ухваленая АВС і СЛД, практычна не дае шанцаў малым партыям і арганізацыям самастойна заіснаваць на выбарах. Калі б, усё-такі, пайсці самастойна на гэтыя выбары ды дабіцца нават выніку, як чатыры гады таму, то не атрымалася б з яго трох радных толькі адзін. Калі стала ўжо ясным, у які бок паварочвае сітуацыя, сталі мы прыглядацца — хто ды што нам прапануе. Таму менавіта і вырашылі стаць на спісак Беластоцкай самаўрадавай кааліцыі „Левыя і незалежныя разам" у якасці незалежных кандыдатаў.

***— Што такое СЛД запрапанавала г.зв. нашаму асяроддзю, што прыступіла яно да гэтай кааліцыі?***

— Першае гэта тое, што кандыдаты нашы ідуць не як члены СЛД, а незалежныя. Па-другое, калі нашы ўвойдуць у новую Раду, дык змогуць стварыць асобны клуб.

***— Вам такую гарантыю далі?***

— Мы так дамовіліся і калі сёння адкрыта пра гэта гаворым, а пазней мела б інакш атрымацца, то паўплывае гэта на вядома якую ацэнку ўсёй кааліцыі. Яна прымае да сябе людзей незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання — абы толькі хацелі яны ажыццяўляць гаспадарчую праграму.

***— Якія, паводле Вас, асабліва важныя для афармлення ў Беластоку справы?***

— Я ўсё сваё прафесійнае жыццё звязаны быў з транспартам — гэтым пытаннем хачу займацца і ў Гарадской радзе Беластока. На сённяшні дзень я таксама член групы, створанай міністрам дзяржаўнага скарбу дзеля рэструктурызацыі і прыватызацыі сродкаў масавага транспарту. Трэба перабудоўваць і ўдасканальваць камунікацыйны план горада, каб адбываўся ён спраўней і быў больш бяспечным для карыстальнікаў.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксандр Максімюк**



*Фота Гжэгажа ДАМБРОЎСКАГА*

## Гарадку — 500 гадоў

У Гарадку былі буйныя першамайскія паходы, былі мітынгі Беларускай сялянска-работніцкай грамады і сутычкі рабочых з паліцыяй, але такога парада мястэчка яшчэ не бачыла. Галоўнымі вуліцамі ішлі жыхары сярэдневяковага места і праваслаўныя манахі, яўрэйскія купцы і рыцары Вялікага княства Літоўскага, войскі Напалеона, Гітлера і Сталіна, паўстанцы Кастуся Каліноўскага і рабочыя тэкстыльных фабрык, расстраляныя немцамі сяляне з вёскі Папоўка і закатаваныя жыхары гарадоцкага гета. Ішлі пяць стагоддзяў гісторыі, а камандавалі парадам магнаты са славутага роду Хадкевічаў — заснавальнікі Гарадка, пры якіх перажываў ён свой залаты час.

Такі юбілей трапляецца раз на паўтысячы гадоў. Зразумела тады, калі тыя, на чыё кароткае жыццё выпаў такі гонар, сустракаюць адзначыць яго належным чынам. Пяцісотгоддзе Гарадка святкавалі чатыры дні, ад 18 да 21 верасня. А пачалося ўсё менавіта з гістарычнага парада, падрыхтаванага вучнямі і настаўнікамі мясцовай пачатковай школы. Падрыхтоўка да яго, па словах намесніка дырэктара школы Лявона Матыса, узяла паўгода.

Да юбілею былі аб'яўлены літаратурны і мастацкі конкурсы. Першы не карыстаўся вялікай папулярнасцю, затое ў другім прыняла ўдзел вялікая колькасць школьнай моладзі. Іх найлепшыя працы можна глядзець у Гарадоцкім асяродку культуры. Там жа адкрылася выстаўка археалагічных знаходак на тутэйшым гарадзішчы, першнаперш кераміка, манеты і гаспадарчыя прылады, такія як цвікі. Паказаны таксама добра захаваны шкілет жанчыны. Між іншым, гэтыя знаходкі былі тэмай навуковай канферэнцыі, наладжанай другога дня святкаванняў.

Ужо першы дзень юбілею стаў таксама святам спорту. У парку ў цэнтры Гарадка, які раней быў папросту рынкам, спаборнічалі між сабой школы з Гарадоцкай гміны. А на трэці дзень — у нядзелю 20 верасня ва ўрочышчы Барык прайшоў турнір трох суседніх гмінаў: Гарадка, Міхалова і Нараўкі. Дарослыя змагаліся ў такіх класічных спартыўных канкурэнцыях, як футбол, валейбол ці шахматы. Але былі і не алімпійскія гульні, хаця не менш цікавыя: перарэзванне на час бервяна, перацягванне каната ці выціскванне гіры. Акрашанае ўсё гэта было прэзентацыяй на сцэне мастацкіх калектываў, якія ствараюць культурны воблік гэтых гмінаў. Былі і госці: „Маланка" з Бельска і „Курпе-Зелёнэ" з Беластока. А тон вышэй апісанаму параду паддаваў духавы аркестр з Беластока.

Гісторыя Гарадка пачынаецца з пасялення тут у 1498 годзе Аляксандрам Хадкевічам манахаў з Кіева-Пячэрскае лаўры. Таму гэта таксама юбілей мясцовага праваслаўнага прыхода. У ходзе святочных дзён багата было рэлігійных акцэнтаў: багаслужбы ў царкве і касцёле, даклады па гісторыі абедзвюх святыняў на навуковай канферэнцыі. Юбілей удастоіў сваім візітам мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, які 21 верасня (на Прачысту) адправіў святую літургію ў Прачысценскай царкве і пасвяціў новую прыхадскую святліцу.

— Перамогамі Яна Карла Хадкевіча пад Кірхольмам над шведамі і пад Хоцімам над туркамі ганарыцца ўся Польшча, — кажа найслаўнейшы жыхар Гарадка Лявон Тарасэвіч. — Тыя дзеці, што ішлі ў парадзе, адчулі, што гэта таксама іх спадчына. Яны адчулі веліч мінулага і выраступь на людзей без комплексаў, так характэрных іх бацькам і дзядам.

**Мікола Ваўранюк**

[пра канферэнцыю ☞ 8]

## Добрая праца і сумленнасць

Беларускі выбарчы камітэт мае традыцыі ў палітычным жыцці гміны Гарадок. Людзі мелі нагоду пераканацца, як нашы кандыдаты кіравалі гмінай. Тое, што зрабілася ў нас за апошнія восем гадоў хай сведчыць пра нашы магчымасці і ангажаванасць. Я думаю, што зрабілі мы многа карыснага.

[размова ☞ 3]

## Новыя белыя плямы

Сярод нявысветленых белых плямаў астаецца яшчэ і лёс беларускай інтэлігенцыі, якая загінула ў беластоцкім канцлагеры „Даліна смерці" ў 1919-1920 гадах. З-за страшлівых умоў у канцлагеры ў ваколіцы Пятрашаў кожнага дня паміралі каля ста чалавек. Сярод іх былі беларускія настаўнікі, афіцэры, стваральнікі культуры.

[болей ☞ 4]

## Трасуны

Гудуць самалёты жураўліным шляхам: то ад Нікара, то ад Гайнаўкі — па руху непадуладнага нам маятніка часу. Абласавала Пушчу чаўночная гільдыя, абмотвае нас атрутнымі шлейфамі замаруджанага дзеяння. Моцныя духам не ведаюць, што твораць. Думаюць, навек адарваліся ад зямлі. Толькі чаму на татальны пярдзёж абралі кучаравую яшчэ Пушчу.

[проза Г. Валкавыцкага ☞ 5]

## Пара яднання?

Калі ў пачатку сямідзесятых гадоў я напісала ў адным з артыкулаў, што Адам Міцкевіч у сваёй творчасці часта абапіраўся на беларускі фальклор (так, усяго столькі!), галоўны рэдактар „Нівы" Георгі Валкавыцкі мусіў тлумачыцца ў Міністэрстве ўнутраных спраў, што „я ніякага беларуса з Міцкевіча не зрабіла".

[пра Міцкевічаўскую канферэнцыю ☞ 8]

## Святыя месцы

У канцы жніўня паломнікі з Гайнаўкі адправіліся ў пілігрымку ў Кіеў. Кіеўска-Пячорская лаўра — гэта тое месца ў Кіеве, куды праваслаўныя паломнікі едуць у першую чаргу. Так было і на гэты раз. Наведалі яны Далёкія і Блізкія пячоры, у якіх захоўваецца зараз больш чым 120 мошчаў святых, якія ў галоўным маліліся ў Лаўры.

[пра паломніцтва ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Сябра падляшскай моладзі

Падляшскі ўкраінскі Форум імя князя Данілы Галіцкага разам з рэдакцыяй „Підляських повідомлень" з глыбокім сумам прынялі вестку пра смерць св.п. рэдактара Міколы Гайдука — шматгадовага выдатнага журналіста „Нівы", паэта, празаіка, публіцыста, перакладчыка, фальклярыста, літаратура- і мовазнаўцы, члена Саюза польскіх пісьменнікаў і Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" і Заслужанага дзеяча культуры Польшчы, аўтара шматлікіх кніжак і шчырага сябры падляшскай моладзі, змагара за праваслаўе і вольную і незалежную Беларусь.

Св.п. рэдактар Мікола Гайдук быў закаханы ў наш падляшскі фальклор, які карпатліва збіраў і рэгулярна публікаваў на старонках „Нівы", „Беларускіх календароў" і навуковых выданняў. Як прыхільнік падляшскіх дыялектаў, непасрэдна і асабіста прычыніўся да іх набілітэту, узвышаючы загуканае дагэтуль у свядомасці шматлікіх падляшукоў „простае", вясковае, „мужыцкае" слова да рангу мастацтва на старонках шматлікіх беларускіх выданняў, гэтым самым беручы гэтаксама і непасрэдны ўдзел у нашым тут адраджэнні. Светлай памяці Нябожчык сабраў каля 600 падляшскіх песняў, якія з'яўляюцца неацэнным скарбам нашай культуры, нашага тут фальклору і народу.

З гэтай прычыны выказваем шчырыя спачуванні Ягонай Жонцы Лідзіі, дзецям і ўсёй Сям'і.

Вечная Табе памяць, мілы Сябра падляшскіх украінцаў! Хай вечна сняцца Табе сны аб Тваёй вольнай і незалежнай, назаўсёды каханай Табою, Беларусі!

**Падляшскі ўкраінскі Форум**
**імя князя Данілы Галіцкага**
**Рэдакцыя „Підляських повідомлень"**

## Чарговае затрыманне

7 верасня г.г. у Мінску недалёка ад МАЗ былі схоплены намеснік старшыні Маладога фронту Яўген Скочка і актывіст Цімафей Дранчук. У акцыі затрыманні ахоўнікі рэжыму ў цывільным збівалі затрыманых. Усю ноч хлопцы былі пратрыманы ў пастарунку, прычым міліцыянты не давалі ім патэлефанаваць сябрам ці родным.

На другі дзень маладыя актывісты былі абвінавачаны ў нанясенні на браму МАЗ надпісу „Хартыя '97. Улада — народу!" У выніку Яўген Скочка быў засуджаны на 10 сутак зняволення. Цімафей Дранчук атрымаў штраф, але і пасля суда міліцыянты незаконна затрымлівалі яго на працягу амаль 4 гадзін, прымушаючы даць падпіску пра няўдзел у маючым адбыцца 8 верасня шэсці і мітынгу, прысвечаным Дню беларускай вайсковай славы.

## Канцэрт з нагоды Аршанскай перамогі

У мінскім парку 50-годдзя Кастрычніка 6 верасня адбыўся, арганізаваны Маладым Фронтам канцэрт прысвечаны Аршанскай перамозе беларускіх вояроў. Нягледзячы на аддаленасць парку ад цэнтра горада некалькі тысяч маладых людзей прыйшлі, каб адзначыць беларускае свята і паслухаць беларускія рок-гурты. У канцэрце прынялі ўдзел: NRM, Зніч, Новае Неба, Уліс, Exist, Склеп, The Ravens.

Наведаць акцыю Маладога Фронту выварашылі славянафашысты, аднак ледзь іхны сціплы гурток быў распазнаны, як сярод слухачоў хутка распаўсюдзілася ідэя паўтарыць разгром незапрошаных гасцей у лакальным маштабе. Толькі ўмяшанне міліцыянтаў дазволіла прыхільнікам Расейскай імперыі сысці сваімі нагамі.

## Новыя рэзідэнцыі дыпламатам

17 верасня г.г. Іван Антановіч сказаў журналістам, што Нямеччына і Францыя прыслалі свае „тэхнічныя брыгады", каб агледзець новыя дыпламатычныя рэзідэнцыі, якія Беларусь запрапанавала пасля высялення дыпламатаў з комплексу ў Драздах у чэрвені г.г. (паводле БелаПАН). І. Антановіч падкрэсліў, што не будзе „вяртання ў мінулае", паколькі комплекс у Драздах з'яўляецца цяпер афіцыйнай рэзідэнцыяй беларускага прэзідэнта. Беларусь лічыць, што паслы ўшануюць такое рашэнне — дадаў міністр замежных спраў. Ён сказаў таксама, што пакінутая ў Драздах маёмасць замежных дыпламатаў — някранутая. Некаторыя паслы звярнуліся з просьбай „дазволіць ім правесці ў Драздах прынамсі адну ноч, каб захаваць воблік".

*RFE/RL Newsline, 18.09.1998*

## Беларусь працягвае Расіі руку

17 верасня г.г. беларускі міністр замежных спраў Іван Антановіч сказаў, што Беларусь мае „праграму", якая можа стаць неабходнай Расіі ў час цяперашняга крызісу (паводле БелаПАН). „У нас ёсць дасведчанне, якім мы можам падзяліцца" — сказаў І. Антановіч. Ён дадаў, што Беларусь прымае меры па ўзмацненні інтэграцыйных працэсаў і палітычных кансультацый з Расіяй — „цяперашняя інтэграцыйная хваля" міністру замежных спраў Беларусі ўяўляецца „самай прыярытэтнай і ў найвышэйшай ступені" важнай. Паводле яго, Захад рассейвае „магутную, дэструктыўную прапаганду" супраць Расіі ды імкнецца ізаляваць краіну, як раней зрабіў гэта з Беларуссю. Расійскі крызіс, паводле І. Антановіча, прывёў да „катастрофы развіцця Расіі абапертага на заходніх узорах, якія ўжыццяўляліся хлопцамі з Чыкага" — міністр не назваў аднак ніякіх прозвішчаў.

*RFE/RL Newsline, 18.09.1998*

## Самая танная ў свеце гарэлка

**Беларускі антырэкорд**

У кнізе рэкордаў Гінэса Беларусь прадстаўлена трыма сваімі не тое каб дасягненнямі ці набыткамі, а, скажам так, параметрамі. У нас самае буйное ў свеце балота — Вялікі Мох на Віцебшчыне, самае вялікае пахаванне людзей — Курапаты і самая маштабная экалагічная катастрофа — Чарнобыль. Адзін параметр прыродны, а два другія — рукатворныя.

Апошнім часам у нас пастаўлены яшчэ адзін сусветны рэкорд, але ўжо не ў найвялікшым, а ў найменшым вымярэнні. У нас самыя нізкія ў свеце кошты на гарэлку. Нідзе ў іншай краіне паўлітра гарэлкі не каштуе менш за долар. Магчыма, гэты рэкорд, на першы погляд, носіць эканамічны або сацыяльны характар. Тым не менш, у ім, як у фокусе, адлюстроўваецца ўсё наша цяперашняе жыццё разам з яго культурным кантэкстам.

Самая танная... Што б гэта значыла? Простая логіка кажа так: улады самым адкрытым чынам спойваюць народ. Альбо такое тлумачэнне: гэта значыць, што ў Беларусі самыя нізкія ў свеце даходы насельніцтва.

Духоўнасць або роля алкаголю ў здаровым ладзе жыцця, або ў мастацкай творчасці — няхай гэтыя тэмы застануцца за рамкамі сёняшніх развагаў. На маю думку, яны тут і ні пры чым. Тым больш, што ў мяне асабіста не складаецца ўражанне, што ў Беларусі пабольшала п'яніц.

Піць сталі болей і ўсе — гэта відавочна, але каб у тым назіралася нейкая паталогія — не бачна. Піць сталі, бадай, столькі, колькі п'юць ва ўсім цывілізаваным свеце. У гэтым сэнсе ўладам наўрад ці ўдасца спаіць беларускі народ. Іншая рэч, што такое з боку дзяржавы імкненне акрэсліваецца ўсё болей. Варта згадаць і нядаўнюю легалізацыю самагонаварэння і тое, што са збожжа сёлетняга жніва найперш быў сфармаваны менавіта гарэлачны фонд.

Аднак, што з гэтага можа вынікнуць? Тое, што аўтарытарны рэжым трымаецца выключна на гарэлцы? Ёсць яшчэ, вядома, рэгулярныя мізэрныя зарплаты, захаваныя працоўныя калектывы і мноства карных органаў. Ёсць таксама і поўнае неразуменне сэнсу гэтай палітыкі з боку электарату. Дай нам танную гарэлку — і гэта дастаткова, каб мы не займаліся аналізам дзейнасці прэзідэнта. Ёсць, нарэшце, і сапраўдны рэальны падрыў эканомікі праз заніжаны кошт „стратэгічнага прадукту".

Яшчэ ў беларускім гарэлачным рэкордзе, як у люстэрку, мне ўбачыўся галоўны прынцып нармальнага сацыяльна-эканамічнага парадку — цалкам адваротны таму, які пануе сёння ў Беларусі. Гэта збалансаванасць коштаў і даходаў. Я маю на ўвазе нават псіхалагічную збалансаванасць. У сённяшняй Літве, напрыклад, пляшку гарэлкі менш за 5 долараў не набудзеш. Затое даходаў звычайнага чалавека дастаткова, каб ніякі кошт не падаўся ўрэшце зусім фантастычным. Гэтаксама і паўсюль на Захадзе. Вы можаце за некалькі заробкаў набыць машыну і за некалькі гадоў сабраць на кватэру. Пры гэтым набыццё гарэлкі выглядае для вас рэальнай растратай. У Менску ж я ведаю людзей, якія, зарабляюць 30 долараў у месяц, жывуць у кватэрах, кошт якіх перавышае 30 тысяч і п'юць гарэлку — не з ахвоты, а таму што яна ў іхнім разуменні не каштуе нічога.

Яшчэ адна фатальная шкода гэтага перакосу адбіваецца на культуры. Я зноў жа не маю на ўвазе духоўнасць. Паколькі гарэлка ў нас традыцыйны цэнаўтваральны арыенцір, а звычайная кніга ва ўяўленні публікі наўрад ці можа каштаваць больш за гарэлку, дык кошты на кнігі найчасцей заніжаюцца (абы прадаваліся) ніжэй за ўсялякія шанцы выдаўца не тое, каб выплаціць ганарар аўтару, але і проста вярнуць укладзеныя грошы. Тое самае і з коштамі на тэатр ды іншую публічную культуру.

Як ні круці, а танная гарэлка ніякім чынам і ні ў якой галіне не спрыяе, а толькі падрывае — што эканоміку, што культуру, што псіхалагічны клімат у грамадстве. Беларускі гарэлачны рэкорд свету аказваецца першынством наадварот. Мы не чэмпіёны, а антычэмпіёны. Мы тыя, што бягуць апошнімі. І наш антыпрыз яшчэ чакае нас у нашай будучыні.

**Сяргей ПАЎЛОЎСКІ**

*„Наша Ніва" № 17 (114), 14.09.1998 г.*

## Штораз больш рускамоўных школ

16 верасня г.г. каля 200 бацькоў і грамадскіх дзеячаў прайшлося ў Мінску шэсцем пратэстуючы супраць пашырэння рускай мовы як мовы навучання ў беларускіх школах (паводле Беларускай службы Радыё „Свабода"). Дэманстранты адзначылі, што лік беларускіх школ значна знізіўся за прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. У 1993 г. 58% мінскіх першакласнікаў пачынала сваю вучобу на беларускай мове — у 1998 г. лік гэты нырнуў да 7%. Па ўсёй Беларусі лікі гэтыя выглядаюць як 76% (1993) і 28% (1998). Дэманстранты перакананы, што галоўнай прычынай абмежавання адукацыі на беларускай мове — дзяржаўная палітыка прамоцыі адукацыі на рускай мове ды недахоп беларускамоўных універсітэтаў у краіне.

*RFE/RL Newsline, 17.09.1998*

## Незадаволенасць залежнасцю

Беларускі міністр эканомікі Уладзімір Шымаў сказаў, што недапушчальным з'яўляецца факт, што 70% замежнага гандлю Беларусі адбываецца з Расіяй. У інтэрв'ю тыднёвіку „Беларуская газета" (14.09.1998) У. Шымаў сказаў, што беларускія экспарцёры недастаткова развінулі свае сувязі на рынках Украіны ды іншых краін Усходняй Еўропы, як і ў краінах Афрыкі ды Азіі. Міністр адзначыў таксама, што беларускі экспарт павінен быць больш канкурэнтным. Адным са сродкаў дасягнення гэтай мэты, паводле яго, увядзенне новых спосабаў вылічэння цэн у экспарце. У. Шымаў дадаў, што адзінай station... 

*RFE/RL Newsline, 16.09.1998*

## Расія не перасцерагла

17 верасня г.г. прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў, што Расія павінна была перасцерагчы сваіх партнёраў з Садружнасці Незалежных Дзяржаў у сваім сур'ёзным фінансавым становішчы, пакуль крызіс яшчэ не ўспыхнуў. „Такога не адбылося і таму расійская катастрофа ўсіх нас дорага каштуе", — сказаў прэзідэнт. Расія ўсё сустракаецца з „вельмі дрэннымі справамі", якія могуць стаць „пастаяннай з'явай". Кажучы пра актуальны эканамічны курс Расіі, А. Лукашэнка заявіў, што „Расія засвойвае цяпер прынцыпы, якія Беларусь здаўна распрацоўвае". А. Лукашэнка сказаў яшчэ пра патрэбу сустрэчы з расійскім прэзідэнтам або прэм'ер-міністрам з мэтай абмеркавання расійскага эканамічнага курсу.

*RFE/RL Newsline, 18.09.1998*

# Добрая праца і сумленнасць

**У гміне Гарадок зарэгістраваных 18 выбарчых камітэтаў. За 18 месц у Гміннай радзе будуць змагацца 55 кандыдатаў у 8-мі выбарчых акругах. З Аляксандрам КАРПЮКОМ, старшынёй Беларускага выбарчага камітэта, гутарыць Ганна Кандрацюк.**



*Аляксандр КАРПЮК, гісторык, настаўнічае ў ПШ у Гарадку. На здымку разам з жонкай Ірэнай, лекаркай, і дзяцьмі Вольгай і Серафінам. Кандыдат з акругі Валілы-Станцыя, мясцовасці, дзе пражывае.* Фота Анны МАКАЦ

***— Ужо трэці раз БДА ў Гарадку завязала Беларускі выбарчы камітэт. Пад якім ідзяце лозунгам?***

— Пакуль што не маем спецыяльнага лозунга. Думаю аднак, што будзе ён такі: „Добрая праца і сумленнасць".

***— А сказаць шырэй?***

— Хочам рабіць тое, што рабілі раней. А гэта значыць: працягваць ужо пачатыя інвестыцыі, ажыццяўляць новыя. Трэба закончыць пабудову каналізацыі ў Гарадку і Валілах-Станцыі, далей асфальтаваць вуліцы, пракладаць тратуары ў Гарадку і Валілах-Станцыі, правесці комплексную тэлефанізацыю гміны, развіваць агратурызм, хочам таксама арганізаваць прафесійнае пажарнае дэпо, пабудаваць вадасховішча „Зарэчча" каля Гарадка і спартыўны комплекс для гміны. Хацелі б урэшце зрабіць дах над сцэнай у Барыку (дзе адбываецца „Басовішча") і пераабсталяваць кацельню — з вугальнай на газавую.

***— Ці прадугледжваеце стварэнне ў Гарадку новых месц працы?***

— Так. Будзем ствараць карысныя ўмовы для інвестараў, якія дадуць працу жыхарам нашай гміны. Маю на думцы разбудову інфраструктуры па дарозе Беласток — Баброўнікі. Чакаем зараз адкрыцця пагранічнага перахода для легкавых аўтамашын, з якім звязваем надзею эканамічнага развіцця гміны.

***— А якія прапановы маеце ў нацыянальным плане?***

— Дагэтуль, пакуль БДА было пры ўладзе, гміна дапамагала арганізаваць усе беларускія мерапрыемствы. На тэрыторыі гміны дзейнічаюць беларускі калектыў „Рассяпаны Гарадок" і рок-гурт „Брага", у некалькіх пачатковых школах выкладаецца беларуская мова, выходзіць польска-беларуская газета „Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны", якая, дарэчы, заняла першае месца ў рэйтынгу лакальных выданняў у ваяводстве. Мы і надалей хацелі б падтрымоўваць і развіваць беларускую культуру і асвету.

***— У гміне 18 выбарчых камітэтаў з 55 кандыдатамі. Чым тлумачыцца вялікае зацікаўленне самаўрадавымі выбарамі?***

— Людзі пераканаліся, што лакальная ўлада мае рэальны ўплыў на іх жыццё. Вялікая колькасць кандыдатаў сведчыць, што дэмакратыя ў нас развіваецца. Ёсць закон, што нават незалежны кандыдат з данай акругі мусіць рэгістравацца як выбарчы камітэт. Адтуль такая вялікая іх колькасць.

***— Сярод вашых супернікаў такія камітэты: „Wspólne dobro" (выставіла кандыдатаў у 7 акругах), „Przymierze społeczne" (у 6 акругах), „Młodzi — Niezależni" (у 4 акругах). Апошнія, аж 14 камітэтаў, кандыдаты незалежныя. Яны, здаецца, найбольш разаб'юць ваш электарат?***

— Беларускі выбарчы камітэт мае традыцыі ў палітычным жыцці гміны Гарадок. Людзі мелі нагоду пераканацца, як нашы кандыдаты кіравалі гмінай. Тое, што зрабілася ў нас за апошнія восем гадоў хай сведчыць па нашы магчымасці і ангажаванасць. Я думаю, што зрабілі мы многа карыснага.

**Кандыдаты са спіска Беларускага выбарчага камітэта:**

**I. Гарадок:**
Мікалай Адамік
Яўген Жукоўскі
Мікалай Кардаш
Уладзімір Кардаш
Ніна Купрашэвіч
Міхал Лавіцкі
Ян Несцярук
Люба Цыванюк
Ежы Яканюк
Павел Яканюк

**III. Валілы-Станцыя:**
Ян Горбач
Аляксандр Карпюк
Тэодар Хлябіч

**IV. Зубры-Свіслачаны-Мастаўляны-Зубкі:**
Аляксей Дзярманскі

**V. Вейкі-Падазяраны:**
Мікола Нос

**VI. Даўнева-Калодна-Каралёвы Мост:**
Анатоль Лысанкевіч.

**VII. Залукі-Кандыцыя-Навасёлкі:**
Гражына Данеш.

БВК не выставіў сваіх кандыдатаў у акрузе Баброўнікі. Як паясніў Аляксандр Карпюк, з гэтай акругі кандыдуе Валянцін Цітко, з якім БВК не супернічае.



# Дні бульбы

У суботу і нядзелю, 19 і 20 верасня ў Моньках адбыліся Монькаўскія дні бульбы — мерапрыемства арганізаванае галоўным чынам тамашняй Управай горада. У іх рамках адбыліся шматлікія імпрэзы гандлёвага і культурнага характару. Галоўнаю з іх былі Сельскагаспадарча-прадуктовыя таргі, на якіх прадпрыемствы звязаныя з сельскагаспадарчаю прадукцыяй прапанавалі свае тавары. У спектры тых прапаноў былі галоўным чынам сельскагаспадарчыя машыны, а сярод іх вытворцаў прысутнічаў м.інш. нарваўскі „Пронар", які прапанаваў мантаваныя ў Нарве трактары з Мінскага трактарнага завода. Гасцям Дзён бульбы прапанаваліся таксама тэлевізары і легкавушкі.

А гасцей тых у суботу было як кот наплакаў. Афіцыёз быў галоўным чынам мясцовы. Не прыехалі ні міністр сельскай гаспадаркі, ні прэзас ПСЛ, прысылаючы толькі апраўданні. Не відаць было таксама ні ваяводы, ні нават тамашняга пасла Юзафа Мазалеўскага. Малалікія прысутныя каменціравалі гэты факт адсутнасцю зацікаўлення ўлад сельскаю гаспадаркай. А земляробы адсутнічалі па вельмі простай прычыне — стаяла прыгожае надвор'е і яны, карыстаючыся гэтым дарам Нябёс, „святкавалі" Дні бульбы на бульбянішчах.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Самаўрадавыя выбары ’98

## Кандыдаты праваслаўнага асяроддзя ў самаўрадавы сеймік Падляшскага ваяводства Спісак № 1 — Саюз левых дэмакратаў

**Яўген Чыквін** — 49 гадоў, галоўны рэдактар „Przeglądu Prawosław-nego”, акруга № 3, 2 месца.

**Славамір Галіцкі** — 46 гадоў, інжынер-электрык, акруга № 4, 4 месца.

**Ян Зенюк** — 64 гады, доктар гуманітарных навук, акруга № 5, 2 месца.

Ян Зенюк сваю дзейнасць накіроўвае на фарміраванне правільнага падыходу да пытання сужыцця нацыянальнасцей і веравызнанняў, а таксама на грамадска-культурнае і гаспадарчае развіццё Беласточчыны. У гэтай справе накіраваў ён адкрыты ліст прэм’ер-міністру Рэчы Паспалітай. З’яўляецца старшынёй Галоўнага праўлення Праваслаўнага брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія, старшынёю Клуба беларускай інтэлігенцыі, членам Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку. Жанаты, дзве дарослыя дачкі.

## Кандыдаты праваслаўнага асяроддзя ў Гарадскую раду Беластока Спісак № 10 — Беластоцкая самаўрадавая кааліцыя „Левыя і незалежныя разам”

**Антон Мірановіч** — 39 гадоў, гісторык, прафесар, акруга № 1, 2 месца.

**Віталій Бонда** — 54 гады, афіцэр пажарнай аховы, інжынер будаўніцтва, акруга № 2, 4 месца.

**Пётр Бурак** — 54 гады, прэзас Беластоцкага цэнтра будаўнічых матэрыялаў, акруга № 3, 1 месца.

**Марк Масальскі** — 31 год, педагог, дырэктар Праваслаўнага асяродка міласэрнасці, акруга № 4, 1 месца.

**Яраслаў Матвяюк** — 30 гадоў, юрыст, акруга № 5, 2 месца.

**Рыгор Падлярскі** — 25 гадоў, інжынер эклагічнай вытворчасці, акруга № 6, 3 месца.

**Пятро Крук** — 60 гадоў, тэхнік-механік, акруга № 7, 4 месца.

**Славамір Назарук** — настаўнік-катэхет у ПШ н-р 45, акруга № 8, 3 месца.

*Рэкламны матэрыял Выбарчага камітэта „Левыя і незалежныя разам”*

# Новыя белыя плямы

Нядаўна расейская пракуратура звярнулася да польскага ўрада з просьбай высветліць лёс звыш 80 тысяч салдат Чырвонай Арміі, якія трапілі ў палон падчас вайны 1920 года. Пра тое, што загінулі яны ў канцлагерах для ваеннапалонных, здаецца, добра ведалі савецкія ўлады ўжо ў дваццатых гадах. Праўдападобна паўплывала гэта і на лёс польскіх афіцэраў, якія трапілі ў рукі НКВД у 1939 годзе. Калі б саветы не ведалі, куды дзеліся іхнія салдаты, тады вялі б даследаванні ў 1945-1989 гадах, калі былі ў іх усе магчымасці для высвятлення гэтай справы. Але тады сябруючым народам — польскаму і савецкаму — не выпадала ўспамінаць пра дзесяткі тысяч цішком і ганебна пасланых у зямлю „прыяцеляў”.

Пасля 1989 года палякі дамагліся ад расейскіх улад афіцыйнага пацвярджэння таго, аб чым усе добра ведалі — 14 тысяч польскіх афіцэраў, са згоды савецкай вярхушкі, былі забіты. Цяперашняя палітычная сітуацыя проста заахвочвае расейскае кіраўніцтва выцягнуць справу ваеннапалонных з 1920 года. Палякам гэтая тэма вельмі нявыгадная. Апошнімі гадамі прапаганда ўнушала сваім грамадзянам, што Польшча заўсёды знаходзілася ў крузе заходняй, лацінскай, хрысціянскай, значыць, лепшай, цывілізацыі. Іншую катэгорыю маральнасці стварыла візантыйска-расейска-бальшавіцкая цывілізацыя. Там магчымая была ўсякая подласць, у нас, — пераконвалі сродкі масавай інфармацыі і школьныя падручнікі, — нічога падобнага не магло здарыцца. Таму адказ міністра юстыцыі Польшчы Ганны Сухоцкай на выступленне расейскага пракурора прагучаў як нейкі палітычны кур’ёз. Паводле ведаў спадарыні міністр, у лагерах для ваеннапалонных загінула не 80 тысяч, а толькі 18 тысяч чырвонаармейцаў, а прытым, — тлумачыла яна, — ніхто іх не расстраляў, яны самі памерлі. Не сказала яна, аднак, што памерлі яны ад голаду і холаду, а толькі дыпламатычна паясніла, што сталася так па прычыне цяжкіх сацыяльных умоў.

Нават калі б прыняць, як адлюстраванне рэальнасці, лічбу 18 тысяч, тады ўзнікае пытанне, на якой аснове даводзенне да галоднай смерці лічыцца больш цывілізаваным чым расстрэл. Можна толькі здагадвацца, які ўплыў такі адказ польскага боку будзе мець на расейцаў. Перш за ўсё апраўдаюць яны ўсе сталінскія злачынствы ў адносінах да палякаў.

Сярод нявысветленых белых плямаў астаецца яшчэ і лёс беларускай інтэлігенцыі, якая загінула ў беластоцкім канцлагеры „Даліна смерці” ў 1919-1920 гадах. З-за страшэнных умоў у канцлагеры ў ваколіцы Пятрашаў кожнага дня памірала каля ста чалавек. Сярод іх былі беларускія настаўнікі, афіцэры, стваральнікі культуры. Як пісаў настаўнік з Гарадзеншчыны Іван Антонаў, якому ўдалося перетрываць кашмар гэтага лагера, „захварэўшым лагерная адміністрацыя столькі прысвячала ўвагі, што і мухам у мухалоўках — выкідалі іх у сырую яму”. У Беластоку — паводле Антонава — нават яшчэ жывых закопвалі разам з нябожчыкамі (*Успаміны аб польскай акупацыі Гарадзеншчыны ў 1919-1921 гг.*, Каўнас 1921).

Мала праўдападобна, што ў найбліжэйшым часе Беларусь стане нармальнай дзяржавай, а беларусы — народам, які паспрабуе высветліць з суседзямі невядомыя лёсы сваіх продкаў, хаця б дзеля чалавечага перапахавання іх астанкаў.

**Яўген Мірановіч**

# Без акцэнтавання нацыянальнасці

Беларусы, якія рашыліся кандыдаваць у гмінныя, гарадскую і павятовую рады ў будучым Сямятыцкім павеце на кастрычніцкіх самаўрадавых выбарах балаціруюцца на спісках розных выбарчых камітэтаў, аднак не робяць яны акцэнту на сваю нацыянальнасць, а толькі падкрэсліваюць праваслаўнае веравызнанне. У павятовую раду праваслаўныя кандыдаты выстартуюць са спіскаў чатырох камітэтаў, створаных палітычнымі партыямі і групоўкамі, ды двух індывідуальных выбарчых камітэтаў, заснаваных самімі кандыдатамі. У ліку згаданых чатырох камітэтаў вылучаецца „Сямятыцкае выбарчае паразуменне” (СВП), якое называе сябе левай цэнтрысцкай групоўкай незалежнай ад Саюза левых дэмакратаў. Сярод вылучаных СВП кандыдатаў праваслаўныя складаюць значную частку. Праваслаўных прынялі на свае спіскі яшчэ „Кансерватары Папдляшша” — камітэт, створаны партыяй СКЛ М. Стычня, і „Рэгіянальнае сялянскае паразуменне”, заснаванае сялянскай партыяй ПСЛ і Таварыствам прыяцеляў Сямятыч.

Падобная сітуацыя наглядаецца ў адносінах да кандыдатаў на радных у гарадскую раду. Там апрача згаданых чатрыох партыйна-кааліцыйных камітэтаў (усіх камітэтаў разам з АВС у горадзе пяць), якія парапануюць сваіх кандыдатаў ва ўсіх выбарчых акругах горада Сямятычы, у некаторых акругах будуць кандыдаты і ад індывідуальных камітэтаў.

Зусім інакш выглядае справа ў пасобных гмінах, дзе пераважаюць індывідуальныя камітэты. У сувязі з невялікай актыўнасцю вясковага насельніцтва ў выбарчай кампаніі вылучэнне кандыдатаў і заснаванне індывідуальных выбарчых камітэтаў часта інспіравалася ўправамі гмін. **(вл)**

# Прыбіранне наваколля

Ужо пяты раз вучні Падставовай школы ў Дубічах-Царкоўных прымалі ўдзел у экалагічнай акцыі „Прыбіранне свету”. Каардынатарам акцыі была настаўніца біялогіі Івона Сяроцкая-Тварyг, а суарганізатарамі выступілі гмінныя ўлады і Надлясніцтва Бельск, якое прыдбала мяшкі для смецця і транспарт ды сарганізавала дзецям вогнішча.

— Нашы дзеці прывучаны да такіх акцый, — сказала настаўніца. — Асобна збіралі яны аліюмінiевыя бляшанкі (каля 200 штук), але няма іх каму аддаць.

Вучні працавалі ў чатырох групах. Васьмікласнікам, якія прыбіралі кавалак рухлівай шашы Гайнаўка — Кляшчэлі, памагала паліцыя.

— Здзівіла нас вялікая колькасць смецця, — кажуць вучаніцы VIII класа. — У адным месцы знайшлі мы ажно 25 „памперсаў”, мноства банак і бутэлек з-пад піва, а нават боты. Часам сапраўды было гадка, фэ...

За год дзеці зноў выйдуць на чаргувую акцыю. Аднак прыбіраць трэба штодзень!

**Славаімр Кулік**

# Літаратурная старонка (465)

На абмежку

## Трасуны

Над Пушчай прыбойным рокатам бесперастанку гудуць рэактыўныя мастадонты. Паветраны калідор. І хочацца мне на крылах з маладых сноў узняцца на строга вызначаную сонечную трасу і зірнуць у вокны паднебных тарантасаў і, калі ёсць у дуралюмініевым чэраве жывыя асобіны, спытаць у твар:

— Куды трасецеся, загуджаныя?

Ведаю, трасунам не да мяне. І яны, канструктыўныя *винтики* суседскай рэальнай стадыі, убачыўшы зарэжымленую зямлёй набрыдзь, гаркнуць на манер маёра Штырліца:

— *Не твое дело!*

І гуданудь мацней, скручваючы ўзбоч Гайнаўку ў кірунку Бугу, і я распластаюся ў белым шлейфе выхлапневых газаў над Швэдавым Морам.

Хочаце верце, хочаце — праверце, але я каторы раз шлю ў думках шчырую ўдзячнасць таму пільнаму купцу з паветраных сіл сорак пятага года, які валявым рашэннем не прапусціў мяне, аздобленага нялётным грыфам „Быў у акупацыі", у гэтыя сілы. Трапіўшы туды, навек закаваўся б у загуджаны тарантас — я ж рваўся ў паветраную гільдыю.

— Удзячнасць выказвай не палітызаванаму рыначніку, а роднаму Сталіну, — падказвае Сідар. — Купец выконваў толькі ягоную волю.

Так і быць:

— Дзякуй, Бацька, за тваю празорлівасць, за твой сакаліны зрок. Сапраўды, матэрыял на бязліку *винтик* з мяне нікудышні. Дзякуй, Мудры, што не выбраў мяне ў глуміцелі кучаравай зямлі.

— Няўжо, працінаючы Белавежжа, апаражняўся б ты над цудам прыроды? — паджартоўвае Сідар. — Няўжо не кінуўся б у абдымкі вабнай бездані.

— *Мерзавец!* — шыпіць хрыплів з халодных віткоў Патойбаковіі прастуджаны ўладны голас.

— Хто *мерзавец*, я ці Сідар? — гукаю з бяспечнай геапатычнай зоны.

— *Сволоч!* — шыпіць далёкае бязмежжа.

Абудзіў дэмана. Прасвідраваў мяне з гэткай далечы, як сталічнага актывіста ў час ідэйнага пастраення БГКТ. *Никто не забыт, ничто не забыто.* Ты ўсё на эмоцыях. Не трэба так катэгарычна. Апусці долу злосцю налітыя вочы. Даруй крыўду, ляпнуў здуру — расказарміўся язык у тваю непрысутнасць. Не хвалюйся, усё будзе па-твойму, спі. *Да приснится тебе „Утро Родины" (чудесной).*

З-за далі дальняй пачуўся парадны храп. Вярхоўны храпун строга чаканіў кожны ўздых і выдых, і далідальні рытм *четко* адбівалі ў прыземным поясе паднябесся ТУ-энныя рухавікі.

Гудуць самалёты жураўліным шляхам: то ад Нікара, то ад Гайнаўкі — па руху непадалуднага нам маятніка часу. Абласавала Пушчу чаўночная гільдыя, абмотвае нас атрутнымі шлейфамі замаруджанага дзеяння. Моцныя духам не ведаюць, што твораць. Думаюць, навек адарваліся ад зямлі. Толькі чаму на татальны пярдзёж абралі кучаравую яшчэ Пушчу.

А кажуць, нашы палітыкі прынцыпова хворыя на калідорны сіндром. Што? Не мая справа? Задворкавы падыход? А ваш — які.

Адгукаецца знаёмае адрывістае рэха з выразным каўказскім акцэнтам:

*Я начальник — ты дурак, ты начальник — я дурак...*

А па-над небакраем плыве гул грознай ростані.

Георгій Валкавыцкі

---

Марыля Базылюк

* * *

непатрэбнае
„прабач за ўсё"
бо за што прабач
калі няма даравання

непрыгожая чамусьці
вясна
і дождж гамоніць
быццам плакаў
што ты робіш — шалёны
я ж смяюся
калі адыходзіць усё
няма другога
боку свету

луг прамаўляе
жаўцізною лотаці
прабачэнняў няма
гэта толькі жыццё
ў параўнанні з прыродай
іграе ў колеры

---

Міра Лукша

* * *

паэт піша адзін доўгі верш
за ўсё сваё жыццё
толькі час ад часу
мусіць выпіць чай пакахацца
і таму вершы
дзеляцца
і ўзлятаюць
як матылі
(кожны з іх
хоча быць тым адзіным
на ўсё жыццё
а матылю, як ведаем —
век — дзень)

залятаюць вершы
між старонкі
(часам — выпадкова
альбо на агонь)
выпырхнуць адтуль —
і сэрца ўзлятае
а часам іх там
проста
друкуюць
чорнай фарбай
сушаць
тых матылёў паэзіі
паказваюць у школе:
бяруць за крыльцы мацаюць
аналізуюць рысунак
лічаць лапкі і плямкі
асыпаюць пылок
з беднага нябожчыка

---



*Бязмежжы і высі Гайнаўкі.* Фота Міраславы ЛУКШЫ

---

Барыс Руско

### Начная птушка

У павеках пенных
цела пляж,
змрочныя куткі
пад павуціннем шоўку.
Па чуткіх клавішах
блукаюць пальцы.
Чуваць
хвілін накцюрн.
Рэзвым патокам
з гушчыні ласкі
нясецца лямант
на край начы.

---

Надзея Артымовіч

* * *

іржа твой цень
як музыка
у белых пальцах

адзін неабходны верш
іржа музыка цень

адзін неабходны верш
як матчына маўчанне
анямелы парог

верш як час

---

Міхась Андрасюк

### тры

між намі ціш
трохкроп'е слоў
трохзор'е воч
трохбор'е рук
трызубіць час
трохзначны ўлоў
між намі ціш
трохмоўны гук

а нас няма
як не было
трохбор'я рук
трохзор'я воч
трызніць у траве
трыпутнік слоў
трывожыць сон
трывае ноч

---

Славамір Адамовіч

### Ня хочацца

Ня хочацца быць нікім,
ня хочацца быць бедным,
чытаць правінцыйны „ЛіМ",
праходзіць па справе падсьледным.

Ня хочацца быць без вады,
бяз мыла, запалак, солі,
бяз кавы, кавалка яды,
здаровай жанчыны і волі.

*19 жніўня 1998 г.*

---

Віктар Швед

### Як да шчасця мала трэба

Помніцца летняя нядзеля.
Я са знаёмаю асобай
У гарадскім натоўпе селі
У перапоўнены аўтобус.

Знаёмы адазваўся гэтак
З настроем радасна-прыўзнятым:
— А я ўжо еду без білета!
(Мінуў яму семдзесят пяты).

Сэрца маё засумавала:
Усім вядомае спрадвеку,
Што ўжо да шчасця вельмі мала
Трэба старому чалавеку...

### *Кастрычнік*

Ад дрэва да дрэва ідзе пехатой
Кастрычнік, мастак адмысловы,
І фарбай бурштынавай і залатой
Малюе лісточкі ў дуброве.
Зірні: ён і сам, адступіўшы на крок,
Глядзіць на абсяг маляўнічы,
І робіць апошні агністы мазок,
І подпіс выводзіць: Кастрычнік!

Алег Мінкін

# Праз Белавежу ў гісторыю



*Дубы ў Старой Белавежы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

21-23 жніўня г.г. праводзіліся XIV Сустрэчы „Зоркі”, якія на гэты раз адбыліся ў Белавежы. Белавежская пушча — гэта не толькі прырода. У яе нетрах дрэмле таксама і гісторыя. Прапаную чытачам „Зоркі” паехаць углыб яе. Няхай перасадачнай станцыяй будзе нам Старая Белавежа — месца, дзе расце больш за сорак даўгавечных дубоў. Дубы гэтыя былі пасаджаны ў XVI стагоддзі навокал паляўнічага замка, пабудаванага, магчыма, для патрэб польскага караля, вялікага князя літоўскага Сігізмунда I Старога. Дубы гэтыя — жывыя сведкі тых часоў. Цяпер маюць яны імёны князёў і каралёў, якія ўнеслі заслугі для Белавежскай пушчы і Беластоцкай зямлі. Палюбавацца гэтымі магутнымі дрэвамі можна ідучы сцежкай, якая завецца „Шляхам каралеўскіх дубоў”. Апрача згаданага шляху ёсць яшчэ іншыя (Зубровыя рэбры, Месцы моцы). Прабываючы ў Белавежскай пушчы нельга мінуць курганы — іх вельмі многа. Курганы — гэта магілы нашых продкаў, зараз іх упрыгожвае першабытны лес. А высока на дрэвах весела спяваюць птушкі. Яны сваім спевам прыводзяць мне на думку мінулыя гады. Гады, калі ў гэтым месцы, дзе цяпер знаходзяцца курганы, жылі людзі. Якія ў іх былі жылішчы і сядзібы? Дрэвы, якія яшчэ стаяць і памятаюць колішніх жыхароў, шумяць сумна і вяртаюцца думкамі ў мінулае.

Я б хацела, каб Белавежская пушча стала нацыянальным паркам.

# Восень. Кастрычнік

Кастрычнік. Назва месяца паходзіць ад слова „кастрыца”. У гэты час нашы продкі церлі ды трапалі лён, з якога ападала шмат кастрыцы.

Дні становяцца карацейшымі і халаднейшымі.

Працягваецца лістапад.

Адлятаюць у вырай гракі, шпакі, дразды.

Заканчваецца лінька пушных звяроў.

Грыбнікі ведаюць, што ў кастрычніку свае зімовыя запасы можна папоўніць зялёнкамі і падзялёнкамі.

14 кастрычніка — вялікае старажытнае земляробчае свята Пакровы.

Народная мудрасць кажа: прыйшлі Пакровы, пытаюць: ці да зімы гатовы. На Пакровы заганяйце ў хлеў каровы.

# Малавядомая куніца

Калі толькі я прыехаў на адпачынак у Відава, адразу на другі дзень падаўся ў Галадоўскі лес, дзе многа лісіных нор і ў дуброве растуць грыбы. Некалькі дзён ішоў дождж, а пасля пацяплела — вынашанае ў марах надвор'е! З раніцы іду між старыя дубы. Прысеў на паваленым пні і сузіраю за калыханнем дрэў пад подыхамі ветру ды моўчкі ўслухоўваюся ў ціхі шэлест лістоўя.

Неўзабаве пачуў шум у кароне вялікага дуба, а затым убачыў бягучую па галінах вавёрку. Мігнуў у разгаліне рыжы хвосцік, а следам за ёю і другая жывёлінка, якая здалася мне крыху большая і менш рыжая... Першая ўжо на зямлі і хаваецца за клёнам, а другая доўгімі скачкамі гоніць яе. Цяпер толькі ўсведаміў я сваю памылку: тая другая — не вавёрка! Большы звярок, пабачыўшы мяне, узбіраецца на рала, каб праз хвіліну высунуць некалькі метраў над зямлёю цікаўную вострую мордачку і закругленыя вушы. Вялікая жоўтая пляма сыходзіць з горла на грудзі; па гэтай пляме лёгка пазнаю лясную куніцу. Хвіліну прыглядаецца на мяне з цікаўнасцю, а затым хуценька бяжыць у вярхі дрэва, пасля з галіны на галіну перабягае на другія дрэвы і толькі я яе і бачыў! Такім чынам выпадкова збярог я жыццё вавёрцы.

Лясная куна — рэдкі ў нас драпежнік, які жыве ў разлеглых лясных комплексах нашай краіны. Тулава яе прынамсі два разы даўжэйшае за вавёрчына, ды і хвост, хаця пушысты, зусім другога кшталту. Круглы год качуе яна па сваёй лясной прасторы, абмежаванай слядамі пахучай вадкасці, выдзяляемай спецыяльнымі залозамі; яе кроплі, пакінутыя недзе на дрэве або на зямлі, гэта інфармацыя для іншых звяркоў, што тэрыторыя занята. Корміцца яна птушкамі і іх яйкамі, вавёркамі, яшчаркамі, смаўжамі і нават насякомымі; у суткі патрабуе 150 грамаў мяса, напр. пяцьсем мышэй. Гон адбываецца ў ліпенііжніўні, а цяжарнасць доўжыцца дзевяць месяцаў. Маладыя родзяцца ў красавіку-маі; у адным прыплодзе ад двух да васьмі малых. Першыя тыдні жывуць яны на дрэвах у старых дуплах або пакінутых вароніх гнёздах. Пачынаюць бачыць у сорак дзён пасля родаў, а кормяцца малаком тры месяцы.

Лясныя куніцы малалікія, а склалася на гэта шмат прычын. Многія стагоддзі паляўнічыя забівалі гэтых звяркоў, каб пашыць жонкам раскошнае футра. Шапкі з куніц упрыгожвалі галовы вяльможаў. Вырубка лясоў пазбаўляла куніц сховішча ў дуплах старых дрэваў. Сёння яны, хаця з'яўляюцца лоўнаю звярынай, знаходзяцца пад аховаю.

Пабачыўшы тое, што хацеў пабачыць, і назбіраўшы грыбоў, вярнуўся я пад вечар дадому.

Андрэй Гаўрылюк

# Польска-беларуская крыжаванка № 40

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу 3 тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Mistrz / Cel | ▼ | Cham / Teatr | ▶ | | | Era | ▼ | Etanol / Oblężenie | Frajer, „jeleń” |
| ▶ | | ▼ | | Orzech | Etap | ▶ ▼ | | ▼ | ▼ |
| Temat | ▶ | | | ▼ | Rosa / Mnich | ▶ | | | |
| ▶ | | | 📖 | | ▶ | | | | |
| Era | Tren | ▶ | | | | Oda | ▶ | | |
| Grzech | ▶ | | | | Klan | ▶ | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 36:** яд, экран, фэст, ар, хан, хвост, радок, ад, парк, Кіпр, яр, Нур, Афрыка, рукаў, рэха, сад, этнограф, зрук, вяпрук, Ян, ода, ас, артыкулы.

Узнагароду — **набор каляровых аўтаручак** — выйграў **Пятрусь Янкоўскі** з **Бельска Падляшскага**. Віншуем!

Талон „Зоркі” № 40
04.10.1998

# Рэзюме кніжак

Сёння вельмі часта сустракаем у кнігарнях рэзюме. Вучні чытаюць іх не заглядаючы нават у змест кніжкі. Ці гэта добра? Думаю, што не.

Пішучы кніжкі, аўтары хочуць перадаць сваю думку на выбраную тэму, апісаць жыццё людзей. Вельмі часта пісьменнікі пішуць пра цікавае здарэнне, якое калісьці пабачылі ці нават самі перажылі. Думаю, што кожны аўтар хоча, каб яго кніжку людзі чыталі з зацікаўленнем. Але што ж можа сказаць пра доўгую кніжку чалавек, які прачытаў усяго некалькі старонак рэзюме? Такі „чытач" ніколі не захапляецца творам таму, што ён прачытаў толькі расказ пра гэтую кніжку.

Калі чалавек чытае кніжку, у якой аўтар шырока апісвае прыроду, людзей, тады ўяўляе сабе гэта ўсё. Дзякуючы гэтаму чытанне кніжкі становіцца штораз больш займальным, чалавек можа фантазіраваць. А што ўяўляем чытаючы толькі рэзюме? — нічога! У гэтым скарачэнні кніжкі перадаюцца нам толькі сухія факты, якія ў сапраўднасці вельмі часта бываюць менш цікавымі як апісанне, напрыклад, прыроды.

Вельмі часта гэтыя голыя факты вучні чытаюць з ляноты. Думаю, што лепш пасядзець даўжэй над кніжкай, перажыць прыгоды героя, захапляцца апісаннем прыроды, чым прачытаць у дзесяць хвілін рэзюме і ісці гуляць у футбол.

Рэзюме — гэта выдумка апошніх гадоў. Можам іх купіць у кожнай краме з кніжкамі. Калісьці не было такога. Нашы бацькі ўсе кніжкі чыталі поўнасцю. Нават цяпер яны вельмі добра памятаюць іх змест.

Думаю, што людзі, якія многа чытаюць — багацейшыя ад тых, якія чытаюць рэзюме. Яны багацейшыя ў веды, мову, а таксама маюць большую фантазію. Варта чытаць кніжкі!

**Міхась Сцепанюк**



*VII і VIII класы ПШ у Новым Корніне.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Прыгоды паноў Заблоцкага і Кубліцкага

# Цар Максімільян (2)

Прадстаўленне канчаецца, цар Максімільян адчэплівае бараду ды збіраецца выходзіць з хаты.

— Куды? — у роспачы лямантуе дзеўка Дрыпа. — А жаніцца?

Цар Максімільян адно зірнуў на Дрыпу, увесь закалаціўся — і хадалы! Так папёр цераз пляц, што карона з галавы звалілася. Дзеўка Дрыпа падбірае карону, атрасае ад пылу, уздзявае сабе на макаўку ды йдзе сваёй дарогай, задуменная.

Тым часам паны Кубліцкі і Заблоцкі, галодныя ды сярдзітыя, марна чакаюць дзеўку Дрыпу.

— Няйначай, на рынку заблудзіла, — вохкае пан Кубліцкі. Якраз тут чуваць крокі на ганку, адчыняюцца дзверы й уваходзіць дзеўка Дрыпа, але яе, натуральна, не пазнаць. Бо абстрыжана, што тая авечка, ды на галаве мае папяровую карону.

— Чаго глядзіце? — пытаецца дзеўка. — Гэта ж я, ваша служка, Дрыпа.

— Не, ты не Дрыпа, — нарэшце выціскае з сябе пан Заблоцкі. — Ты якаясь іншаземная паненка, можа, нават каралеўская дачка.

„А што, хіба й так, — раздумвае сабе Дрыпа. — Цар Максімільян абы-каго замуж не возьме".

А пан Кубліцкі пачынае вохкаць і стагнаць:

— Нашая служка, мабыць, заблукала на тым рынку... Што рабіцьмем, пане Заблоцкі?

— Шукаць пойдзем, — вырашае пан Заблоцкі.

— Мяне таксама вазьміце з сабою. Я вам дапамагу шукаць яе, — просіцца дзеўка. Такая яна ўжо спагадлівая да чужое біды.

От яны ўтрох пхаюцца да Смургоняў, доўга швэндаюцца па рынку, распытваючы ў людзей:

— Ці не бачыў хто дзеўку Дрыпу?

— А як яна выглядае, вашая Дрыпа? — цікавяцца людзі.

— Такая, ведаеце, худаватая крыху, — пачынае апісваць пан Кубліцкі, — але трошачкі й таўставатая. Не сказаць, каб вельмі вялікая, але не дужа й малая.

— Два вухі ў ёй, адзін нос, спераду, — удакладняе пан Заблоцкі.

— Такіх багата, — смяюцца людзі.

— Яна ходзіць у задрыпанай світце, — згадвае нарэшце пан Кубліцкі.

— Во ў такой, як гэта? — пытаюцца людзі, паказваючы на зрэбную адзежыну дзеўкі Дрыпы.

Паны прыглядаюцца: праўда, тая самая світа! І дзеўка нібыта тая самая, хіба што прычоску памяняла.

— Яна! Знайшлася-такі! — радуюцца паны.

І дзеўка Дрыпа шчаслівая:

— А я ўжо баялася, што ніколі сябе не адшукаю.

— Хадзем хутчэй дахаты, — цягнуць яе паны, — вячэра хутка.

Але дзеўка Дрыпа ўперлася, казаў той, рогам. Бо ўвабрала ў голаў новую фантазію. Кажа панам:

— Дахаты я не пайду. А пайду я ў белы свет свайго жаніха шукаць, што ўцёк ад мяне. Цара Максімільяна. Ужо выбачайце. Такая мая планіда.

Сказала ды й пайшла. А знойдзе ці не — пра гэта іншым разам, іншым часам.

*(працяг будзе)*

**Пятро Васючэнка**

# Сяляне ў II Рэчы Паспалітай

Звыш 90% беларусаў у даваеннай Польшчы складалі сяляне. Таму ў літаратуры і гістарыяграфіі беларусаў называлі сялянскай нацыяй, нават тады, калі ўжо большасць насельніцтва жыла ў гарадах.

Сітуацыя сялянства была вельмі складаная перш за ўсё па эканамічных прычынах. Амаль 79% плошчы Заходняй Беларусі займалі лясы, балоты, аблогі. Тут знаходзілася палова балотаў цэлай Рэчы Паспалітай. Таму бывала так, што нават тыя сяляне, якія мелі 20 гектараў зямлі, не маглі з яе пракарміць свае сем'і. Сялянскія сямействы былі найчасцей шматдзетныя. Дзяцей бывала ў сярэднім шасцёра-пяцёра. Адукацыю канчалі на чатырокласнай пачатковай школе. Працы дарма было шукаць у горадзе. Таму зямля мела найвышэйшую вартасць, акрэслівала месца чалавека ў грамадстве.

Узровень тэхнікі на Заходняй Беларусі быў найніжэйшы ў Рэчы Паспалітай. На вёсцы дамінавала натуральная гаспадарка. Сяляне самі выраблялі для сябе ўсё тое, што было ім патрэбнае для штодзённага жыцця. Льняное палатно, з якога рабілі ўсю вопратку, ткалі ў кожнай хаце. У якасці летняга абутку служылі лапці з лыка. Зімою сяляне насілі валёнкі, робленыя з авечай воўны. Асноўнымі харчамі былі капуста і бульба. Цукар быў вельмі рэдкім парадуктам у сялянскай хаце. Гэтае сціплае меню дапаўнялі рыбы, якіх шмат было ў рэках, равах і азёрах. Голад, аднак, пастаянна спадарожнічаў жыхарам вёскі. Вясною бывала найгорш. Шмат сямействаў пазычала тады ў багацейшых суседзяў бульбу, збожжа. Жыта, змеленае ў жорнах і размешанае з вадою, было гатовым матэрыялам на перапечку.

Найгорш было заплаціць падаткі. Былі яны вельмі высокія ў параўнанні да заможнасці сялян. Сялянам даводзілася прадаваць каня ці карову, каб заплаціць дзяржаве падатак.

## Вершы Віктара Шведа

### Калі найлепш зрываць грушы

Зноў завітала да нас восень.
Жыццё у школе пачалося.
Настаўнік запытаў Паўлушу:
— Калі найлепей зрываць грушы?

Паўлуша адказаў: — Вядома,
Калі няма нікога дома.
— Найлепш тады, — дабавіў Якаў, —
Калі прывязаны сабака.

### Ашчаднасць

— Ці ты, татка, — запытаўся Уладзік, —
Быў бы задаволены, ці не,
Калі б ты дзесяць злотых заашчадзіў
Дзякуючы абсалютна мне?

— Быў бы задаволены, вядома, —
Татулёк з усмешкай адказаў.
— Добрую ацэнку я дадому
Меў прынесці, ды не атрымаў...

# Пяць стагоддзяў Гарадка




*Гісторыя Гарадка пачынаецца з пасялення тут у 1498 годзе Аляксандрам Хадкевічам манахаў з Кіева-Пячэрскае лаўры. Таму гэта таксама 500 гадавіна мясцовага праваслаўнага прыхода. Юбілей удастоіў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, які 21 верасня (на Прачысту) адправіў святую літургію ў Прачысценскай царкве і пасвяціў новую прыхадскую святліцу. На здымку: мітрапаліт Сава (у цэнтры) і настаяцель прыхода а. Мікалай Астапчук (з мікрафонам) ля ўвахода ў храм.* Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

З нагоды юбілею пяцісотгоддзя Гарадка 19 верасня 1998 года ў Гарадоцкім доме культуры была наладжана навуковая канферэнцыя. Галоўная мэта канферэнцыі — прыблізіць гісторыю Гарадка і ваколіц. Канферэнцыю адкрыў войт Гарадоцкай гміны магістр Яўген Семянюк, а пасля гэтага былі зачытаны даклады. Аб гісторыі Праваслаўнай царквы на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага гаварыў прафесар а. Мар'ян Бэндза. Тэма гэта дазволіла пазнаць умовы, у якіх дайшло да заснавання манастыра над ракой Супраслю. Магістр Галіна Карвоўская расказала аб пачатках горада на аснове археалагічных раскопкаў. З яе выступлення слухачы даведаліся, што можна дакладна лакалізаваць месца, дзе знаходзіліся замак і будынкі манастыра. Гісторыю Гарадоцкага прыхода прадставіў доктар а.Рыгор Сасна. З яго нага даклада мы маглі даведацца аб складаных лёсах царквы ў Гарадку. Мне найбольш зацікавіла інфармацыя аб ролі пакойнага Блажэннейшага мітрапаліта Васілія ў адраджэнні царкоўнага жыцця. У перапынку канферэнцыі свяшчэннікі адслужылі паніхіду за душу памерлага мітрапаліта Васілія, будаўніка гарадоцкай царквы.

Пасля абеду з дакладам выступіў каталіцкі ксёндз Анджэй Садоўскі, які прабаваў даказваць, што праваслаўныя манахі — заснавальнікі манастыра — былі католікамі. Ягоныя выказванні выклікалі пратэсты слухачоў.

Пасля спрэчак з цікавым дакладам аб Гарадку ў міжваенны перыяд выступіў доктар Генрык Маецкі. Ён паказаў тадышнюю палітычную і гаспадарчую сітуацыю ў Гарадоцкай гміне. Лёсы яўрэяў у Гарадку прадставіў у дакладзе магістр Збігнеў Раманюк. Яўрэі ў гісторыі мястэчка адыгралі важную ролю, асабліва ў міжваенны перыяд. Яны дынамізавалі гаспадарчае развіццё Гарадка. Генацыд яўрэяў у ваенны час давёў да гаспадарчага заняпаду мястэчка. Значэнне Гарадоцкай зямлі ў беларускай культуры прадставіў магістр Сакрат Яновіч. Гэта была цікавая рэфлексія над творчасцю выдатных людзей Гарадоцкай зямлі. Нарэшце ніжэйпадпісаны прадставіў даклад аб гісторыі Гарадка ў параўнанні з лёсамі цэлага рэгіёна. Канферэнцыя была добра падрыхтавана і дазволіла лепей пазнаёміцца з мястэчкам, заснаваным беларускім магнатам Аляксандрам Хадкевічам. Канферэнцыі спадарожнічала цікавая выстаўка археалагічных экспанатаў, знойдзеных на Гарадоцкай зямлі.

**Антон Міравовіч**

# Фэст у Новым Корніне

Апошні ў гэтым годзе беларускі народны фэст, арганізаваны ГП БГКТ супольна з гмінымі ўладамі, адбыўся 20 верасня ў Новым Корніне. На школьным пападворку сабраліся амаль усе жыхары вёскі.

Фэст адкрыла Вольга Рыгаровіч, войт Гайнаўскай гміны. Прывітала яна сардэчна ўсіх прысутных сцвярджаючы, што ініцыятарам фэсту з'яўляецца Аляксандр Астапчук, радны з Новага Корніна, якому, а таксама Іаанне Алексяюк — дырэктару мясцовай школы падзякавала сардэчна за дапамогу ў падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемства. Памянула яна ўсіх прыбыўшых на фэст гасцей, у тым ліку Мікалая Крэчку, генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку і паслоў Сейма Рэчы Паспалітай — Сяргея Плеву і Яна Сычэўскага.

Ян Сычэўскі, ён таксама старшыня ГП БГКТ, вітаючы ўсіх сардэчна сцвердзіў, што Гайнаўская гміна можа ганарыцца водаправодамі ў вёсках, пабудовай дарог. Вучні маюць добры даезд да школ. Асабліва сардэчна прывітаў ён мастацкі калектыў „Фэст" з Баранавіч на Беларусі.

Канцэрт павяла Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП БГКТ. На невялікай сцэне выступілі хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад арганізацыйнай апекай Галены Арцішэўскай і музычным кіраўніцтвам Віктара Маланчыка з Гродна; эстрадны калектыў „Капры" з Беластока — дуэт Марэк і Каміль; жаночы калектыў „Арэшкі" з Арэшкава, адзін з найлепшых калектываў беларускай жывой песні; галасісты дуэт з Беластока — Люба Гаўрылюк і Валодзя Іванюк; эстрадны калектыў „Ас" з Беластока — дуэт Арэк і Славік.

Асабліва спадабаўся прысутным мастацкі калектыў „Фэст" з Баранавіч на Беларусі пад кіраўніцтвам Янкі Кусцінскага, які на прывітанне сцвердзіў: „Мы вельмі рады, што прыехалі да вас, што праспяваем вам беларускія народныя песні а таксама песні напісаныя членам нашага калектыву — Міхасём". Калектыў „Фэст" своеасаблівы, ён адрозніваецца ад усіх іншых мастацкіх калектываў тым, што кожны член калектыву іграе на нейкім народным інструменце (бубен, скрыпка, кантрабас, баян, цымбалы, дудка). Пад такі дасканалы акампанемент калектыў выканаў нізку беларускіх, пераважна жартоўных, песень.

Прысутныя на фэсце публіцы і выступаючым калектывам сардэчна падзякавала Валянціна Ласкевіч, а Вольга Рыгаровіч уручыла ёй букет прыгожых кветак.

**В. Ш.**

# Пара яднання?

**На працягу чатырох дзён, ад 9 да 12 верасня, адбылася ва універсітэце ў Беластоку III Міжнародная канферэнцыя „Вільня і зямля Міцкевічаўскай памяці". Яе арганізатарам ужо трэці раз была Кафедра тэорыі і антрапалогіі літаратуры Інстытута польскай філалогіі. Сёлета канферэнцыя праходзіла ў рамках года Адама Міцкевіча ў сувязі з 200-й гадавінай з дня яго нараджэння.**

Калі ў пачатку сямідзесятых гадоў я напісала ў адным з артыкулаў, што Адам Міцкевіч у сваёй творчасці часта абапіраўся на беларускі фальклор (так, усяго стольki!), галоўны рэдактар „Нівы" Георгі Валкавыцкі мусіў тлумачыцца ў Міністэрстве ўнутраных спраў, што „я ніякага беларуса з Міцкевіча не зрабіла".

Слухаючы даклады на сёлетняй канферэнцыі, можна было з прыемнасцю сканстатаваць, што тут не толькі гаварылася пра беларускія карані яго творчасці, але наогул слова „беларускі": беларускія сяляне, беларускія песні, беларускія традыцыі, а нават беларускі народ, — паўтаралася даволі часта. Што датычыць беларускай зямлі, дык яе найчасцей называлі зямлёй многіх народаў, Навагрудчынай (успамінаючы часам і Мінск, Слуцк, Полацк, Маладзечна, Ліду, Цырын, Даўгінава), або проста, як і сам Міцкевіч — Літвой. „Ён быў патрыётам, спадчыннікам Вялікага княства Літоўскага, адной з найпершых сталіц якога быў якраз родны яму Навагрудак. Літва для яго (як і шматэтнічная Рэч Паспалітая ў цэлым) — найперш краіна, дзяржава, якой так трэба было вярнуць былую свабоду, вызваліць ад іншаземцаў", — так напісаў вядомы беларускі даследчык праф. Адам Мальдзіс у прадмове „Зямля навагрудская, краю мой родны..." да выдадзенай сёлета ў Мінску (з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння славутага сына Навагрудскай зямлі) кніжкі „Адам Міцкевіч і Беларусь". Міцкевіч, на яго думку, спарадзіў не толькі польскі рамантызм, але і беларускі. Гэтага класіка польскай літаратуры можна ўпэўнена лічыць адным з пачынальнікаў і новай беларускай літаратуры, бо ён першы, сцвярджае А. Мальдзіс, звярнуўся да беларускай народнай творчасці, даючы прыклад не толькі варшаўскім „класіцыстам", але і наступным пакаленням беларускіх (як і літоўскіх) пісьменнікаў, якія ад перакладаў твораў свайго фальклору на польскую мову (Ян Чачот) выкарыстоўвалі пазней народныя крыніцы ў творах на беларускай мове (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, а пазней і Янка Купала).

На жаль, ні прафесара Адама Мальдзіса, ні іншых вучоных з Мінска на канферэнцыі не было, а нават не былі яны запрошаны. А магла б у выніку разгарнуцца цікавая дыскусія. Дыскусія была, але накіравана яна была зусім у іншы бок. Беларускія крыніцы творчасці Міцкевіча аднак жа нікім ужо сёння не аспрэчваліся, у гэтым, відаць, наступіла пара яднання. Трэба прызнаць, што даклады былі цікавыя і разнастайныя, яны як бы прасвятлялі прамянямі Рэнтгена не толькі творчасць паэта, але і яго атачэнне, яго эпоху.

Сярод дакладаў былі і „разынкі". Вось, напрыклад, выступленне вядомага польскага кампазітара і музыколага Вітальда Рудзінскага з Варшавы на тэму: „Манюшка і Міцкевіч — Міцкевіч і Манюшка". Аказваецца, кампазітар Станіслаў Манюшка (1819-1872), які нарадзіўся ў 40 кіламетрах на ўсход ад Мінска, каля Бярэзіны, дзе Напалеон атрымаў лупня, скампанаваў аж 22 песні на словы Адама Міцкевіча. На другім месцы — сабраныя Адамам Чачотам беларускія народныя песні, на падставе якіх Манюшка напісаў музыку. Менавіта сярод іх ёсць найбольш вядомыя песні Манюшкі. На трэцяе месца можна было б паставіць песні на словы Сыракомлі. Манюшка пісаў, вядома, на словы іншых паэтаў таксама (хаця б Гётэ), але, відаць, мясцовыя аўтары былі яму больш да спадобы, бо ўсе яны апявалі родную зямлю. Пісаў ён таксама на словы балад Міцкевіча („Світэзянка"), лірычныя сцэны да другой часткі „Дзядоў". У яго операх таксама адчуваецца ўплыў творчасці Міцкевіча.

Даклад праф. Вітальда Рудзінскага быў аздоблены музычнай ілюстрацыяй — песнямі Манюшкі, а таксама супольнымі спевамі.

Ну, а што датычыцца даклада „Ваўжынец Путкамер — уяўны супернік паэта", які прачытаў праф. Марцэлі Косман з Познані, дык ён крануў усіх, хто быў у зале. Праўда, дакладчык прасіў прабачэння ў прысутных, але ў выніку доследаў прыйшоў да вываду, што гэта не страшны багацей Путкамер адбіў у Міцкевіча Марылю Верашчаку, а было якраз наадварот: паэт свіснуў нарачоную з-пад носа свайго сябра. А што кантакты паэта і Марылі працягваліся і пасля шлюбу Марылі з Путкамерам, пра гэта гавораць факты (праз пару гадоў пасля шлюбу яны хрысцілі разам дзіця знаёмых у Цырыне, а дзеці і ўнукі Путкамераў не вельмі шанавалі маці і творчасць Міцкевіча).

Апрача цікавых дакладаў, на канферэнцыі (пра што задбалі арганізатары на чале з праф. Альжбетай Феліксяк) былі іншыя атракцыі. Маю тут на думцы выступленне хору „Schola Cantorum Bialostociensis" пад упраўленнем Віялеты Бялецкай і спевы салістаў з музычнай школы, а таксама выезд у Белавежу, дзе ўдзельнікі канферэнцыі мелі нагоду паслухаць слоўна-музычны мантаж у выкананні вучняў Лясного тэхнікума з Белавежы.

На канферэнцыі прысутнічала шмат моладзі: I Агульнаадукацыйны ліцэй імя Адама Міцкевіча быў яе суарганізатарам.

**Ада Чачуга**

# Ведаць мінулае — заглядаць у будучыню


*Настаўнікі працавалі ў групах.*

14 верасня г.г. у Орлі адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы падставовых і сярэдніх школ Беласточчыны. Удзельнічаў у ёй 31 настаўнік. Астатнія (з ліку амаль пяцідзесяці педагогаў) не прыехалі па розных прычынах — хто не мог, каго не адпусцілі. Прычынай склікання ў Орлю нечарговай канферэнцыі (планаваная адбылася ўжо ў жніўні) была мая гістарычна-фатаграфічная выстава „Пяць стагоддзяў Орлі і ваколіц", якая працуе ў мясцовай школе.

Канферэнцыя пачалася з наведання выставы, па якой настаўнікаў вадзілі яе аўтар, дырэктар школы Яўгенія Васілюк і метадыст Тамара Русачык. Потым у кабінеце беларускай мовы яна заявіла, што думка аб скліканні канферэнцыі з'явілася падчас адкрыцця 5 верасня г.г. згаданай выстаўкі, багатай здымкамі і краязнаўчымі артыкуламі. Метадыст беларускай мовы заклікала настаўнікаў паказаць экспазіцыю дзецям, бо гэтая выстаўка — прыклад колькі яе аўтар робіць дзеля сваёй мясцовасці, рэгіёна, жыхароў, прыбліжаючы ім мясцовую гісторыю, культуру, этнаграфію.

Я ў сваю чаргу, як аўтар выстаўкі, падкрэсліў, што для моладзі найлепшым стымулам для вывучэння мінулага свайго рэгіёна звычайна бывае аматарскае фатаграфаванне. Цяпер фотаапарат стаў прадметам амаль штодзённага ўжытку і таму настаўнікі і бацькі павінны заахвочваць маладых людзей выйсці на прыроду.

Іаланта Грыгарук з гайнаўскага белліцэя пытала мяне, як да карэспандэнта, які апісвае складаныя людскія праблемы, ставяцца адміністрацыйныя ўлады і паліцыя. Адказаў я, што ўва мне перамагае неадольнае жаданне заўсёды гаварыць і пісаць праўду, бо праўда — самая высокая каштоўнасць. І хаця я таксама мастак, аднак аддаю перавагу шэрай, штодзённай, а не прыхарошанай, падмаляванай рэчаіснасці. Гэта дае мне прыхільнасць з боку грамадства, якое адчувае сябе больш упэўнена і годна. А ўладзе, відаць, няёмка і тым самым прызнаецца яна да сваіх памылак, бо інакш мела б гэта адлюстраванне ў судзе.

Канферэнцыю, якая праходзіла пад лозунгам „Ведаць мінулае — заглядаць у будучыню" Тамара Русачык пачала з верша Янкі Купалы „Спадчына". Затым настаўнікі ў шасці тэматычных групах абмяркоўвалі патрэбу выкарыстання выставы. Гадзіну пазней лідэры паасобных груп прадставілі вынікі сваёй працы. Звярнулі яны ўвагу на пазнавальны аспект экспазіцыі, на неабходнасць паказання яе ў школах, бібліятэках і дамах культуры з мэтай разбуджэння ў моладзі зацікаўлення мінулым і культурай сваёй малой айчыны, прывівання пашаны для саміх сябе і свайго народа. Настаўнікі гаварылі таксама, каб падчас збірання экспанатаў выразна адзначаць, што яны менавіта беларускія, а не нейкія тутэйшыя ці украінскія. Я ў сваю чаргу з прыкрасцю сцвердзіў, што пра выставу, якую наведалі ўжо сотні чалавек, пісалі газеты і паказвала тэлебачанне, нічога не гаварылася ў перадачы „Пад знакам Пагоні".

На заканчэнне канферэнцыі метадыст Тамара Русачык падкрэсліла, што выстава павінна інспіраваць настаўнікаў да падобных дзеянняў у сваіх школах. Іаланта Грыгарук ад імя ўсіх удзельнікаў канферэнцыі ў адрас аўтара выставы сказала наступнае: „Я шчыра дзякую вам за тое, што вы паказалі як трэба працаваць на полі краязнаўства. Людзі ў Орлі павінны быць удзячны чалавеку, які вывучае мінулае і прапагандуе сучаснасць мястэчка і ваколіц. Дзякую вам за вялікую адвагу, працавітасць і паслядоўнасць. Ваша выстава з'яўляецца для нас вялікай інспірацыяй".

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*


*Іаланта Грыгарук прадстаўляе вынікі працы сваёй тэматычнай групы.*

# Турыстам для памяці

З паштоўкамі на белавежскія тэмы, у адрозненні ад турыстычных даведнікаў, няма большай праблемы. Штогоду паяўляюцца новыя карткі, пераважна ў серыях. Гэтак было і ў бягучым годзе. Яшчэ да адкрыцця турыстычнага сезона дзвюма паштоўкамі адрэкамендавала сябе Паўночнападляшскае таварыства аховы птушак. У канцы чэрвеня ўдалую серыю з васьмі паштовак выдаў Белавежскі нацыянальны парк.

У ліпені паявілася чарговая серыя, на гэты раз выпушчана Альштынскім агенцтвам „Mazury". Аўтарам пяці картак з надпісам „Puszcza Białowieska" з'яўляецца Анджэй Стахурскі. На ўсіх дамінуюць зубры. На дзвюх шматтэмных картках знаходзяцца яшчэ алень і барсук. На жаль, уся серыя не надта атракцыйная па прычыне даволі цёмнага фону і не заўсёды добра сфатаграфаванай жывёлы.

У верасні турысты атрымалі чарговую серыю, шматтэмную, з надпісам „Białowieża" (3 штукі) і „Pozdrowienia z Puszczy Białowieskiej" (1 штука). На картках аўтарства Э. Дзевы і З. Новака, а таксама Э. Квяткоўскай, змешчаны розныя цікавыя аб'екты з названай тэрыторыі. Паштоўкі нават прыгожыя, толькі што перагружаныя здымкамі, дык і малавыразныя. Сапраўды, каму гэта прыйшло ў галаву, каб на плошчы 10 на 14 см змяшчаць аж 10 здымкаў? А так менавіта ёсць на дзвюх паштоўках. Люблінскае агенцтва „ER-ART", выдавец гэтай серыі, выпусціла адначасова дзве г.зв. складанкі азагалоўленыя: „Puszcza Białowieska" і „Białowieża". Аўтарамі ўсіх змешчаных здымкаў з'яўляюцца Э. Дзева і З. Новак.

Больш-менш у той самы час, прынамсі ў Белавежы, у продажы паявілася паштоўка з надпісам „Gorące pozdrowienia", на якой прадстаўлены пяць краявідаў з-над вадасховішча „Семяноўка". Здымкі гэтыя зрабіў Аляксандр Кардаш, які пяць гадоў таму выдаў карты таго ж вадасховішча і яго ваколіц. Згаданую паштоўку надрукавала беластоцкая фірма „Pryzmat".

**Пётр Байко**

# Перад экскурсіяй у замежжа

**Пра працу школы замежных моў пры беластоцкім „Эмпіку", што па вуліцы Бялуўны 9/1, расказвае яе дырэктар Яраслаў ХАРКЕВІЧ.**

Наша школа замежных моў з'яўляецца адной з 27 такіх у краіне. Навучаем сямі мовам: англійскай, нямецкай, французскай, італьянскай, партугальскай, іспанскай і расейскай. Для дзяцей вядзем тры ўзроўні навучання, а для дарослых — восем. Апрача асноўных моўных курсаў вядзем таксама спецыялістычныя курсы, напрыклад, курсы англійскай мовы ў сферы бізнесу або курсы да матуральнага экзамену. Навучальны год працягваецца ў нас з кастрычніка да чэрвеня і ахоплівае 120 гадзін заняткаў. Базавая цана за наш курс складае 1080 злотаў, у якую ўлічана цана падручнікаў; цэны спецыяльных курсаў нямнога адрозніваюцца ад базавай. (Для параўнання варта згануць, што гадзіна прыватных карэпетыцый каштуе каля 30 зл. — А. В.). Прымяняем складваемыя льготы: вучням і студэнтам 10%, таксама 10% пры заплаце за цэлы курс авансам. Плату за курс можна таксама раскласці на тры раты. Курсы для дзяцей 5-6-гадовага ўзросту ахопліваюць 60 гадзін і каштуюць 498 злотаў. Заняткі адбываюцца між 8 і 21 гадзінамі ў групах з 8-12 або 4-6 чалавек. Падчас летніх канікул праводзім скарочаныя месячныя або двухмесячныя моўныя курсы.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Візіт мітрапаліта ў школах

16 верасня 1998 года гайнаўскія школы наведаў Яго Блажэнства ўладыка Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.

У час сустрэч з настаўнікамі і вучнямі прысутны былі таксама: візітатар гайнаўскай акругі ўрокаў закону Божага, благачынны Кляшчэлеўскай акругі айцец Мікалай Келбашэўскі і намеснік благачыннага Гайнаўскай акругі айцец Сяргей Корх.

— Спачатку наведалі мы I Агульнаадукацыйны ліцэй, дзе пабывалі ў III класе на ўроку закону Божага, які вёў айцец Леанід Шэшка, размаўлялі з вучнямі і сустрэліся з настаўнікамі, — расказвае пра паездку настаяцель прыхода ў Белавежы, айцец Сяргей Корх. — Пазней пабывалі ў Беларускім ліцэі на ўроку, які вёў айцец Марк Якімюк і размаўлялі з вучнямі. Спадабалася нам зала, у якой вядуцца заняткі закону Божага, дзе ёсць спецыяльны куточак для малітвы і многа іконаў. Была і сустрэча з настаўнікамі, падчас якой уладыка Сава расказаў пра святы, царкоўную мову і адказваў на пытанні. Можна сказаць, што падчас спаткання панавала сямейная атмасфера. Трэцяй школай, якую мы наведалі была Падставовая школа нумар 6, дзе ў час перапынку прывіталі нас вучні, пасля сустрэліся з дырэктарам і пабывалі ў III класе на ўроку, які вяла Ева Чурак. Вельмі прыемна слухаць было, як гэтыя маленькія дзеткі выказваліся на зусім сур'ёзныя тэмы. Пры канцы нашай паездкі наведалі мы яшчэ некаторыя прыходы.

**Аляксей Мароз**

# Святыя месцы

**— Кіеўска-Пячорская лаўра, гэта другая па Ерусаліме святасць для праваслаўных, — кажа Ева Шэшка, студэнтка з Гайнаўкі. — Няма другога такога месца, дзе было б столькі мошчаў святых прападобных айцоў нашых.**



*Айцец Леанід і паломнікі ў келлі Кітаеўскай пустыні.*

У канцы жніўня паломнікі з Гайнаўкі разам з айцом Леанідам Шэшкам, настаяцелем прыхода святога Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы адправіліся ў пілігрымку ў Кіеў, дзе і мне давялося пабываць.

Кіеўска-Пячорская лаўра — гэта тое месца ў Кіеве, куды праваслаўныя паломнікі едуць у першую чаргу. Так было і на гэты раз. Наведалі мы Далёкія і Блізкія пячоры, у якіх зараз больш чым 120 мошчаў святых прападобных айцоў нашых, якія ў галоўным маліліся ў Лаўры.

Ад старца Іларыёна і прападобнага Антонія пачалася ў пачатку XI стагоддзя будова пячораў. Паўставалі асобныя келлі, цэрквы і ў падземных пячорах завязаўся манастыр. Лаўра і цэрквы разбураліся не адзін раз, але адбудоўваліся і толькі пры савецкай уладзе перайшлі ў дзяржаўнае ўладанне. Тады менавіта са святымі мошчамі праводзіліся розныя эксперыменты. Толькі ў пачатку 90-х гадоў пячоры, цэрквы і будынкі, якія знаходзіліся на тэрыторыі Кіеўска-Пячорскай лаўры, дзяржаўныя ўлады пачалі перадаваць ва ўладанне Праваслаўнай царкве. Да гэтага часу ў Далёкіх пячорах знаходзіўся музей, а наведвальнікі не маглі ні паставіць свечкі, ні памаліцца ў цэрквах, што ў падзямеллях. Яшчэ і зараз на тэрыторыі Лаўры размяшчаюцца дзяржаўныя музеі і іншыя будынкі, у якіх усякія прадпрыемствы. Аднак аднаўляюцца ўжо тыя цэрквы і будынкі, якія перайшлі ў манастырскае ўладанне. Для праваслаўных вернікаў даступныя ўжо ўсе Антоніеўскія Блізкія пячоры (для турыстаў толькі частка), у якіх больш чым семдзесят мошчаў святых айцоў.

У час наведвання пячораў можна было даведацца пра жыццё і подзвігі прападобных. Маліліся там і князі, і баяры, і знатныя людзі, якія прыняўшы пострыг адракліся ад багацця. Аднак найбольшае ўражанне рабілі расказы пра тых айцоў, якія маліліся замураваныя ў сваіх келлях на дваццаць ці трыццаць гадоў, як прападобны Іаан. Малітвы не дапускалі ні рэўматызму, ні прастуды, ні хвароб, а іхным харчаваннем былі толькі прасфары.

— Свае ўражанні ад пабыўкі ў Лаўры нельга і апісаць, бо і не зразумее гэтага чалавек, які не прыложыцца да мошчаў. Усюды адчуваецца ўздзеянне Святога Духа і малітвы прападобных айцоў. Неабходна пабываць тут прынамсі некалькі дзён, — расказвае айцец Леанід Шэшка. — Цудоўная і архітэктура Кіеўска-Пячорскай лаўры, а асабліва царквы Уздзвіжання Святога Крыжа, што над Блізкімі пячорамі.

— Калі чалавек сыдзе ў пячоры і прыложыцца да мошчаў, зусім інакш глядзіць на ўсё, — гаворыць студэнт Славамір Кірылюк.

— Калі пабывала я ў падзямеллях, перажыла нешта незабыўнае і адчула ласку, — кажа Уршуля Раманюк, студэнтка з Гайнаўкі. — Вельмі падабаліся мне манаскія спевы, як жаночыя, так і мужчынскія.

— Здаецца, як столькі стагоддзяў і захаваліся мошчы, — успамінае спадарыня Зінаіда Фірс. — Апрача Лаўры найбольш пабывалі мы ў Пакроўскім манастыры, дзе і жылі. Увагу паломнікаў і мясцовых вернікаў звярнуў Мікалаеўскі сабор са сваёй незвычайнай архітэктурай і цудатворнай іконай Пачаеўскай Божай Маці. У Кітаеўскай пустыні пабачылі пясчаныя пячоры, дзе маліўся прападобны Дасіфей, але і зараз моляцца там манахі. Ва Увядзенскім манастыры знаходзіцца ікона Божай Маці, якая зараз адлюстравана і на шкле, што доўгі час было каля іконы. У час нашай пабыўкі можна было пабачыць толькі адлюстраванне на шкле, бо ікону вазілі па розных гарадах.

Паломнікі пабывалі таксама і ў Чарнігаве, якому пад 1300 гадоў. У Троіцкім кафедральным саборы прыкладаліся да мошчаў (у адчыненых трунах) свяціцеля Феадосія і прападобнага Лаўрэнція. У Еліцкім манастыры пабачылі ікону Еліцкай Багародзіцы, якая ў XII стагоддзі паказалася на яліне. Паколькі горад стары, многа і цэркваў, якія будаваліся ў пачатку нашага тысячагоддзя.

— Цудоўныя цэрквы ў Чарнігаве, але многія знішчаныя, — успамінае спадарыня Зінаіда Фірс.

— Мяне зацікавілі малюнкі ў царкве, відаць, выкананыя ў савецкі час, замест чатырох евангелістаў былі чатыры поры года, — кажа Славамір Кірылюк. — А ў час нашай паездкі зацікавіў мяне драўляны іканастас з XI стагоддзя і незвычайны спеў манахаў.

Апошнім горадам, які наведалі паломнікі, быў Корац. У манастыры Успення Багародзіцы пакланіліся цудатворнай іконе Божай Маці „Спаручніца грэшных".

— На Украіне прабуюць уводзіць паскавыя коды і ў пашпарты, што прадбачыў прападобны Лаўрэнцій яшчэ ў пяцідзесятых гадах нашага стагоддзя, — расказвае айцец Леанід. — Некаторыя не хочуць прымаць гэтых пашпартоў з апакаліптычнай лічбай 666, але гэтыя людзі могуць патраціць працу ці не атрымаць пенсіі і паўстае пытанне, што рабіць пазней.



*Паломнікі каля Мікалаеўскага сабора Пакроўскага манастыра.*

Каля ўваходаў у манастыры сядзела і стаяла многа бедных людзей, якія прасілі не толькі грошай, але і кавалка хлеба. Паломнікі завезлі ад сябе і вернікаў прыхода святога Іаана Хрысціцеля вопратку і харчы, якія пакінулі патрабуючым.

— Я такая задаволеная, што ўсё вельмі добра атрымалася і памаліліся ва ўсіх тых святых месцах, — успамінае ўжо ў Гайнаўцы спадарыня Галёнка.

**Аляксей Мароз**

*Фота Славаміра* Кірылюка

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

**(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)**

**Частка XVII**

Праз некаторы час мне і іншым палонным, якія паходзілі з Заходняй Беларусі, пашанцавала выбрацца з гэтага пекла. На падставе нямецка-савецкага ваеннага пагаднення, Гітлера і Сталіна, першы эшалон з ваеннапалоннымі быў адпраўлены ў СССР. Нас пасадзілі ў таварныя вагоны па 85 чалавек у кожны вагон, пры забітых вокнах і дзвярах і даставілі ў горад Брэст, дзе нас сустрэлі браты, савецкія вайскоўцы. Правялі рэгістрацыю, аб кожным запісалі даныя: прозвішча, імя, імя па бацьку і якую хто займаў пасаду да вайны. У час рэгістрацыі, чамусьці, правяралі нам рукі. Пасля рэгістрацыі нам сказалі, што цягнік пойдзе ў накірунку Гродна. У Гродне нас сустрэнуць, павядуць у баню, а затым пусцяць на волю, да сваіх сем'яў...

Да месца назначэння я не даехаў. Сярод палонных пайшлі чуткі, што нас з аднаго лагера павязуць у другі, савецкі. Па гэтай прычыне я да самага Гродна не даехаў, а на прыгараднай станцыі Ласосна, якая была недалёка майго дома, у якім жыла жонка з сынам, я выскачыў з вагона. Баец, які нас суправаджаў, у мяне не страляў. Такім чынам я апынуўся на волі, сустрэўся са сваёй жонкай і сынам. Для мяне і іншых такіх як я пачалося новае жыццё. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі ад палякаў я атрымаў магчымасць працаваць настаўнікам у школе. Першапачаткова настаўнічаў у Лашанскай сямігадовай беларускай школе. Памятаю, з якой радасцю, з якім энтузіязмам дзеткі вучыліся ў сваёй роднай школе. Як добра адносіліся да школы іх бацькі, стараліся даць сваім дзеткам адукацыю. Нават дарослыя пайшлі вучыцца на вечаровыя курсы. Але такое становішча працягвалася няпоўныя два гады. Зноў наступіла змрочная пара.

Я быў прызваны на ваенныя зборы, на 45 дзён. 22 чэрвеня 1941 года вайна застала мяне за Беластокам каля паселішча Асавец. Памятаю, у апошні дзень перад самай вайной камандзіры правodзілі конкурс на лепшага запявалу. Я быў запявалам атрада рэзервістаў, які складаўся з жыхароў былой Заходняй Беларусі. Да дванаццатай гадзіны ночы хадзілі мы строем і спявалі ў маршы паходныя песні. У гэтым конкурсе я быў адзначаны кіраўніцтвам як лепшы запявала, мне была аб'яўлена падзяка, асабліва за песню „Канармейская тачанка". Пасля конкурсу мы ў палатках, стомленыя, заснулі. Раптам здрыганулася зямля. Пачуўся пякельны свіст.

22 чэрвеня на світанку на нашы палаткі паляцелі нямецкія бомбы, застракаталі кулямёты. Усе ўскочылі на ногі, выбеглі з палатак, захапіўшы з сабой адзежу. Пачулася паветраная трывога, затым каманды камандзіраў. Загудзелі маторы процітанкавых танкетак, цягачоў. Пачалася вайна...

Артылерыя выехала з лагера і заняла абарону за лесам. Мне камандзір загадаў быць у штабе пры тэлефоне, які знаходзіўся ў зямлянцы, даў сувязнога байца. У зямлянцы, пры тэлефоне я з сувязным і правёў першы дзень вайны. Спачатку сувязь была, а пасля зусім абарвалася. Мы не ведалі, што рабіць. Толькі пад самы вечар з'явіўся ў зямлянку сяржант і сказаў, каб мы жывей уцякалі, таму што немцы прарвалі абарону і хутка будуць тут. Я са сваім сувязным выскачылі з зямлянкі і давай бегчы, але над намі паявіліся нямецкія самалёты. Адзін з іх развярнуўся, спусціўся нізка і застракатаў з кулямёта. Я з тэлефонам упаў у невялікае паглыбленне на ўзвышшы, самалёт развярнуўся зноў, наляцеў на мяне і зноў секанаў. Я скурчыўся, падабраў ногі пад сябе. Сцярвятнік ізноў паўтарыў сваё некалькі разоў, праляцеў нада мною, так што ад куляў у мяне вочы засыпаліся пяском, але ні адна ў мяне не трапіла. Калі самалёт адляцеў, я падняўся, але на нагах не мог стаяць — нейкі курч схапіў, не вытрымалі нервы. Трохі паляжаў, супакоіўся і ўстаў. Недалёка ляжаў мой сувязны. Я падышоў да яго і пераканаўся, што ён ужо не ўстане. Баец быў увесь у крыві. Мяне агарнуў страх. Я не ведаў куды падацца. Выйшаў на дарогу і ўбачыў некалькіх нашых пагранічнікаў. Папрасіў іх, каб яны ўзялі мяне з сабою, не пакідалі. Такім чынам я з пагранічнікамі дабраўся да самага Беластока, хаця па дарозе з бункераў нас абстралялі палякі.

*(працяг будзе)*

**Апанас Цыхун**

Адгалоскі

# Камуна з людскім рылам

Мікалай Панфілюк у „Ніве" (ад 30.08.1998 г.) напісаў: „Беларусы мяккія"... і „Такой камуны, якая была ў нас можна толькі шкадаваць. З Захаду, калі каму было трэба, можна было заказаць цікавыя рэлігійныя кніжкі, яны даходзілі ". Тут ужо аўтар хапіў цераз край. Або ён малапісьменны, або любіць пабрахаць на лес, захапіцца хлуснёй.

Можна быць мяккім і з характарам. Інакш трэ сказаць проста: беларусы цяпер у сваёй бальшыні — баязліўцы. Пад Грунвальдам яны такімі не былі, але ў Мінску да 1772 года іх апалячвалі (хаця яны засталіся), а ад 1921 года іх забівалі рускія (гены прапалі). Дадаць трэ і тое, што на вайне шляхта заўсёды першая падстаўляе грудзі пад кулі і першая ўмірае. Шлях Парыж—Масква небяспечны...

Ёсць такое слова „апартуніст" (па-руску: временщик). Такім заўсёды добра, хоць на іх магілкі людзі плююць. Калі было варшаўскае паўстанне, былі і спекулянты, іх называлі „szmelcownicy". Многа грошай награблі.

Добра было і тым, хто вешаў і расстрэльваў нявінных людзей. Вось на днях памёр генерал Юзэф Курапеска, які сваю кар'еру закончыў на пасадзе рэктара Акадэміі Генеральнага штаба, а раней асуджаны доўга чакаў у турме на смерць. Вось каб на яго месцы быў сам Панфілюк...

Кім хацеў бы быць аўтар: Пятроўскім, ці замардаваным ксяндзом Папялушкам? Ці можа хацеў бы быць высланы за мяжу ў ГУЛаг?

Мо не чуў пра арышт кардынала Вышынскага?

Цяпер мне пара закрануць пытанне пра рэлігійныя кнігі. У 1951 годзе ўсе публічныя бібліятэкі ў Польшчы дасталі цыркуляр, каб між іншым устараніць з магазінаў рэлігійныя кнігі. А я тады быў бібліятэкарам і ведаю, што гавару. Пасля ўжо ў Варшаве я гутарыў з адным бібліятэкарам каталіцкага манастыра і ён з жалем расказваў мне, як мытнікі канфіскавалі рэлігійныя кнігі, прысланыя з-за мяжы. Паслы з каталіцкіх кругоў у Сейме абмежаваны былі да 2-3 асоб, а пасля не было ўжо ніводнага. Парафіяльны ксёндз не мог дзейнічаць пакуль на гэта не даў дазволу адпаведны чыноўнік. Не давалі пашпартоў для выезду за мяжу, каб прымаць удзел у тэалагічных канферэнцыях.

Веруючы — значыць беспартыйны не мог займаць высокую пасаду, напрыклад, дырэктара або інжынера.

Не давалі таксама будаваць новыя касцёлы (за грошы ж вернікаў). Над Пуцкім залівам была кашубская вёска, з якой вельмі далёка да касцёла. Улада на будову дазволу не дала. Тады ў клунях прыгатовілі асобныя часткі храма і ў адну ноч іх сабралі ў цэласць. Прыбег міліцыянер, ды народ крыкнуў яму: „Прытварайся, што нічога не бачыш, а то заб'ём". Пералякаўся ён і маўчаў. Калі ўлада прыйшла ў сябе, мела альтэрнатыву: узброена ўціхамірваць крывавы бунт або паглядзець на гэта цераз пальцы. Выбрала апошняе. Таксама і ў г. Водзіслаў Шлёнскі (26 000 жыхароў у 1970 г.) ксёндз дастаў дазвол на будову складу, а ў адну ноч паставіў касцёл і на гэтым справа кончылася (я там быў).

З Варшаўскага універсітэта выкінулі багаслоўскі факультэт і адным махам тэалагічныя кнігі з універсітэцкай бібліятэкі.

Богу трэба аддаваць пашану цераз культ Праўды. Д'ябал называецца бацькам хлусні. Бяда ў тым, што „Ніву" чытаюць і людзі няздольныя да лагічнага мыслення і дзеці, якія на свае вочы мінулай жудаснай рэчаіснасці не бачылі. Што ж ім раіць аўтар? Прадавай Хрыста, бацьку і маці за чарвонцы ці серабро, хаця пасля і павесішся як Іуда?!

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**



*Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА*

# Хто піша ў „Ніву"

Хто піша ў „Ніву", ён беларус не лянівы. Ці піша прыгожа, ці не вельмі — ён сябра яе шчыры і верны. А хто як піша, коратка „ацаню" ніжай.

Уладзімір Сідарук — па беларускай мове самавук. „Ніва" была яго школай, граматыкай, літаратурай, мовай... Здаўна піша як сапраўдны журналіст і каштоўны кожны яго ў „Ніву" ліст. Піша прыгожа, глыбока, яго праўда пра жулікаў часта ім „выходзіць бокам". Артыкулы багатыя зместам — толькі ў „Ніве" ім месца.

Пётр Байко ўсебакова здольны, чалавек жывой прыроды і вольны. Піша на розныя тэмы і найбольш пра Белавежу і павінен напісаць яшчэ гісторыю „белай вежы".

Андрэй Гаўрылюк — мой верны і пачэсны друг! Працуе на роднай ніве і ўсюды раз'язджае, кожнага земляка з усмешкай вітае.

Селянін і столяр Мароз Грыша пра любоў, веру, надзею і спакой піша. Яго артыкулы змястоўныя, станоўчыя і ніколі адмоўныя. Піша пра сялянскую працу, хаця рэдка, але праўдзіва і метка!

А хто не ведае стройнай і прыгожай Аўроры? Яна не баязлівая і ў час вогра; піша сенсацыйныя допісы — людскія перажыванні... Змясціць бы ў асобнай кнізе Аўроры апавяданні!

А Мінцэвіч Міхал — на старонках „Нівы" пяром размахаў. Піша пра розныя і балючыя справы і не шукае сабе гонару і славы, толькі бароніць пакрыўджаны люд — гэта яго прызванне і *труд*!

Міхась Куптэль — ён цікавы і мае парыў на некаторыя справы — сцебануць нечаканa кагосьці, што можа давесці нават да злосці. Але і яго паважаю і цаню і свой паклон дубіцкі шлю.

Грыгарук Іаланта — вялікай пашаны і ўвагі варта! Гэта новая жамчужына засвяціла ярка, яе творчасць на літаратурных гонях — якасная марка.

Мікалай Лук'янюк — усім вядомы, ён з дзяцінства прывык да кароў, сена, саломы... Селянін, пенсіянер, паэт, публіцыст і карэспандэнт. Гэта чалавек, якім можам ганарыцца; паслухайма яго — не будзем сварыцца.

Барыслаў Рудкоўскі — тытан навукі, у „Ніве" рэдкія яго гукі. Яны ажыўляюць газету, як дождж вясновы, які падае на добрых і злых, і дармовы. Бельск-Падляшскі — яго дом і радзіма, і родная беларуская „Ніва".

Мо каго праміную, дык прабачце. Старонку родную слаўце! Гэта наш доўг, абавязак — калі паміж намі згода, тады будзе парадак.

А Панфілюк піша „грызмолы", хаця, здаецца, і не хворы... Але хто ведае — можа і так быць, хаця стараюся праўду пісаць і „ваду" не ліць.

Дык бывайце; сваю спадчыну ад душы прызнавайце і ўзаемна сардэчна ў „Ніве" вітайце!

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Ой, Астроне, што ж мне на старыя гады прысніласся?! Пражылі мы з жонкай больш як сорак гадоў разам. Дзяцей ды ўнукаў дачакаліся, пенсіянеры мы ўжо, а тут во такое: жонка мне здраджвае. Каханка мае (дзякуй Богу, што ў сне!).

А было так. Жонка кажа мне: „Ідзем на агарод". Не ведаю, які і чый агарод. Але ідзем. Заходзім, а там стаіць жанчына і мужчына (гэта жонка і муж) і дзіцё з імі. Жонка мая падбегла да таго мужчыны, у абдымкі кінулася, прытулялася да яго. Жонка таго ж мужчыны і я здзіўлена глядзім на гэта.

І тут мы зразумелі: яны нам здраджваюць!

Прашу, Астроне, дай мне адказ як найхутчэй. Можа і сапраўды нешта між імі ёсць.

**Мікалай**

Астроне! Сніцца мне, што я плыву на вялікай вадзе, берага не відаць. Можа, гэта было возера, а можа нават і мора. Я плыву на спецыяльным водным матрацы цёмна-зялёнага колеру, даўжынёю каля 2-3 метраў.

Гэты матрац вядзе, як сапраўдны шафёр, мужчына. Мне здалося, што я яго ведаю, але не магу ўспомніць, хто гэта. Мора спакойнае, вада чыстая.

Раптам на матрац, на якім я сядзела, пачала ліцца вада. Я хацела крыкнуць, спытацца, хто ў гэтым вінаваты (быццам нехта трэці), але не паспела.

Ужо быццам збоку, я ўбачыла сама сябе, як я апускаюся пад вадою. Той мужчына — таксама. Ён тапіўся, быў па пахі ў вадзе, седзячы на матрацы.

Што мяне чакае?

**Каміля з Бельска**

Мікалай! Мяркую, што ты, братка, можаш спаць спакойна. І, барані Божа, не таму, што спіш з бабуляй, а таму, што калі ў сне яна табе здраджвала, дык у жыцці яно будзе якраз наадварот. Хаця, наогул, дык і бабулям, братка, здарaецца. Так што трымай вуха востра! — не празяваеш.

А твой сон, Каміля, гаворыць за тое, што не ўсё ў тваім жыцці складзецца так, як ты б хацела. Калі б ты бачыла гэты матрац без людзей, чакала б цябе сумнае адзіноцтва. Калі б ты плыла на ім адна, абазначала б гэта страту прыяцеля. Удваіх на матрацы — шчаслівая ты выйшла б замуж. Калі б матрац даплыў да берага, абазначала б гэта дасягненне поспехаў і дабрабыту. Аднак жа перакуліцца з лодкі ў ваду — вялікае няшчасце або выпадковая смерць.

Думаю, што твае справы не будуць выглядаць аж так трагічна. А ўсё ж такі ў нечым табе не пашанцуе: магчыма, нешта не выйдзе ў сардэчных справах.

**Астрон**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com
INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*Міні-Еўропа ў Мінску.* Фота Міраславы ЛУКШЫ

Фрашкі пра нашых

## *На сваім*

Не аддам нікому я сваёга яйка,
Хоць яно рабое і зусім крывое.
Не дам і гітары, не дам балалайкі;
Не дасць і наш гурт (у ім нас не двое)!

Не аддам і соскі, не аддам бутэлькі,
Ні калякі з возам не пазычу панству!
Не аддам саломінкі, не аддам і бэлькі,
Хоць лупіце вока!
Сам пайду ў падданства.

Замяню і яйка, замяню і курку,
Сам карміцца буду зернейкам з падачкі.
І пастаўлю хатку на чужым падмурку.
Пайду сам у сені. Хай затопчуць качкі!

**Вандал Арлянскі**

## *Двухлітарная крыжаванка*

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. сібірская пакутная рака, 3. звод палажэнняў, якія вызначаюць структуру і парадак дзейнасці арганізацыі, 5. горад на захадзе Венгрыі, 7. Франсуа, французскі мастак (Boucher, 1703—70), 9. паўднёваамерыканскі грызун (*Cuniculus paca*), 10. узрост, у якім чалавек атрымлівае грамадзянскія правы, 11. выканаўца ўласных песень, 12. парыжскі дом моды і марка духоў (Ricci), 14. паўднёваамерыканскі сваяк свінні, 16. дзіцяня лося, 17. вялікае еўрапейскае возера.

**Вертыкальна:** 1. паўночнаамерыканскі алень, 2. Гіём дэ, французскі кампазітар і паэт (Machault, 1300—77), 3. форма тулава, 4. металічная трубка, якая прызначана для змяншэння трэння ў месцы апоры вала, 6. Літва, Латвія і Эстонія, 8. Алан, астранаўт, які першым з амерыканцаў адбыў субарбітальны палёт 5 мая 1961 г.; пазней член экіпажа „Апалона-14”, 9. малітва, 11. Алесь, беларускі паэт (1918—83), 13. горад са стодзесяціпавярховай Вежай Сірса (443 м.), 14. пакаранне за адтэрміноўку выканання абавязацельстваў, 15. горы ў Балгарыі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 34 нумара**

**Гарызантальна:** кісель, Латуада, трушок, кенгуру, хрыбет, трапар, абстрэл, прывод, Арнальд, скутэр.

**Вертыкальна:** плакат, штанга, Каруза, катух, Снуды, Леоне, Расоны, Бірыла, Таледа, Рурык, павет, радар.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## *Шолахава закуска*

Брытанскі консул на Ібізе здаў сваю пасаду. Зрабіў ён гэта ад сораму за сваіх суграмадзян, якія заміж падчас водпуску насалоджвацца прыродным багаццем зялёных лёгкіх Міжземнага мора, размантачвалі свае, патрэбныя для стаханаўскай працы на славу Аб'яднанага Каралеўства, сілы на секс, наркотыкі і алкаголь. Пра такую распусту брытанцаў наогул не гаварылася ці пісалася, бо з сексам і віном найчасцей асацыіравалі ў нас французаў, з малаалкагольным півам — немцаў, з высокаалкагольнаю гарэлкай... — пра гэта будзе на закуску. Хаця, праўду кажучы, можна было крыху падазраваць падданых каралевы Лізаветы ў не надта памяркоўным спажыванні развесяляльных напіткаў: вось калі б тут, у нас, у пару закрывання напойных устаноў, спрабаваць завесці гутарку са спажыўцом-стаханаўцам, адпачываючым на стале або пад, такі азваўся б да цікаўніка на такой фанетыцы Йоркшырскага або Кенцкага графстваў ці рабочых кварталаў Ліверпула або Бірмінгема, пра якую мараць не толькі навучэнцы розных курсаў англійскай мовы, але і не адзін масціты прафесар Оксфардскага ці Йельскага універсітэтаў. Карыстальнікі англійскаю фанетыкай схільныя, даружы, не толькі да алкаголю, але і да іншай, вельмі грэшнай, распусты: прэзідэнта Клінтана настаўлялі на жыццёвы шлях згаданыя вось два універсітэты...

Куды ні кінь, усюды Клін-тан. Вось цяпер поўняцца яго габарытнымі дэталямі Інтэрнет і іншыя *публікатары*. Справа можа каму выглядае смешнаю, аднак нам тут, у нашым беластоцкім куточку, — ад якога Сталін адказаўся на карысць аднаго працаўніка нямецкіх акупацыйных улад у Менску, — зусім не да смеху. Справа вось у тым, што дзякуючы гэтаму жэсту вялікага Іосіфа наш куточак апынецца неўзабаве ў межах юрысдыкцыі Еўрапейскага Саюза. А ў гэтай меркантыльнай арганізацыі ўсё нарматыўнае, між іншым і велічыня дапушчаных у абарот морквы і агуркоў. Магчыма, што нарміравана ўжо, а калі не — дык гэта толькі пытанне часу, і велічыня ўсяго, што расце, калі мужык спіць. І можа здарыцца з намі нешта падобнае да таго, што здарылася Клінтану: у наш сямейны ложак можа ўварвацца нейкі шалёны следавацель з ноніусам каб праверыць, ці нашы паводзіны, а гэта абазначае і прымяняемыя намі спальныя габарыты, згодныя з законнымі нормамі. А за ім можа стаяць такі ж хірург з цыскамі ці скальпелем або шавец з іголкаю і дратвай...

Сведамасць адзінства лёсу з Клінтанам ужо паволі прабіваецца і ў нашу бульбашую свядомасць. Пайшлі вось чуткі, што і наш Рыгоравіч завёў сабе таксама нейкую стажорку-масажорку. Мусіць жа і ён, як і наогул кожны чалавек, нечым вясёлым займацца. Абдымкі і буські з Ельцыным страцілі ўжо палітычны сэнс, ды і сам Мікалаевіч не надта мае на такія пяшчоты час з увагі на сітуацыю ў *необъятной родине*. Вось яшчэ нядаўна настаўнікі ў Алтайскім краі ў дзень зарплаты заміж грошай атрымоўвалі туалетную паперу і труны. Не спадабалася гэта ім і яны запатрабавалі, каб і маскоўскія эліты бралі такую ж як і яны „валюту”. Тады змагарам асветнага фронту сталі, заміж рублямі і трунамі, плаціць расейскай, вельмі любімай тамашнім прэзідэнтам, гарэлкай — па пятнаццаць бутэлек у месяц. Выходзіць па дзвесце пяцьдзесят грамаў у суткі на настаўніцкую сям'ю: сто грамаў мужу, сто грамаў жонцы і пяцьдзесят грамаў цешчы. І ўсё!

— *После* ***первого*** *не закусваем.*

**Адам Маньяк**

## *„Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка*

— Якім цудам удалося табе ўехаць самаходам у сталовую? — пытае муж жонку.

— Уехала на кухню і павярнула ўлева.

* * *

Расказ старога матроса:

— Недалёка Бермудскага трохвугольніка нахлынула на наш карабель дзесяціэтажная хваля і ніхто з экіпажа не ацалеў...

— А вы як?

— Я тады ўжо быў на пенсіі.

* * *

Два матросы пасля караблекрушэння плывуць на шлюпцы. Адзін моліцца ўголас:

— Божа, паратуй мяне з гэтага няшчасця, а прысягаю, што ...

— Нічога не прысягай, — перабівае яму другі, — на гарызонце бачу нейкі параход.

* * *

На выратавальным крузе плыве па моры ацалелы з караблекрушэння англічанін. Даплывае па яго француз, якога параход патануў гадзіну раней.

— Доўга ўжо так тут плаваеце? — пытае англічаніна француз.

— Месяц.

— І як вы столькі вытрымліваеце?

— Сам сабе дзівуюся. Ды асабліва нудна мне ў уік-энды.

* * *

Падчас чарговага візіту лекар цешыцца перад хворым:

— Бачу, што папраўляецеся і выглядаеце штораз лепш. Цешуся, што ўдалося мне трапна падабраць вам лекі.

— Гэта дзякуючы таму, што я вельмі скрупулёзна прытрымоўваўся інструкцыі на наклейцы.

— А што там напісана?

— „Захоўваць шчыльна закрытым”.

* * *

Дачка маці:

— Мужчына, за якога выйду замуж, будзе прыгожы, будзе прыгожа гаварыць, прыгожа спяваць і іграць на гітары, а вечарамі будзе сядзець са мною дома...

— Дачанька мая, — спагадліва адзываецца да яе маці, — калі хочаш, каб збыліся твае мары, купі сабе тэлевізар.

* * *

У фешэнебельны магазін уваходзіць мужчына:

— Хачу купіць спадніцу.

— Які фасон?

— Няма розніцы.

— А колер?

— Усё роўна.

— Дзіўны заказ...

— Не зусім. Гэта падарунак маёй жонцы, а яна і так прыйдзе заўтра, каб памяняць на іншую.